№6(54)
Сакавік 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




## Рэжым дэманструе сваю сутнасьць

***Ня трэба было быць "Касандрай" ці "Настрадамусам", каб прадказаць, што 25 сакавіка ў Мінску будзе гарачым днём. Пасьля рашэньня гарвыканкаму аб адмове заяўляльнікам у дазволе на правядзеньне шэсьця і мітынгу, пра тое, што ўлады і міліцыя рыхтуюцца "даць урок" апазіцыі, казалі ці не ўсе сродкі масавай інфармацыі. Аднак таго, што адбылося на самой справе ў Мінску ў Дзень Волі, у дзень 82-й гадавіны з часу ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, не чакаў ніхто...***

25 сакавіка раніцай цэнтр Мінску нагадваў акупаваны горад. Уздоўж прасьпекту Скарыны праз кожныя 10-12 метраў стаялі міліцыянты. Шэрагі людзей у плямістым камуфляжы цягнуліся ад плошчы Незалежнасьці да Акадэміі навук. У некалькіх месцах стаялі "прыхаваныя" бронетранспарцёры (журналісты налічылі іх дзесяць штук) і вадамёты. Сьпецгрупы з сабакамі (усяго каля сарака) патрулявалі па прасьпекце і прылеглых вуліцах. Пачатак акцыі апазіцыі планаваўся ў 12 гадзінаў ад плошчы Якуба Коласа.

*(Працяг на стар.2)*



**Мінск. 25 сакавіка 2000 году.**

## Хроніка

***12 сакавіка*** **ў Віцебску падчас раздачы запрашэньняў на "Марш Свабоды", правядзеньне якога ў горадзе было дазволена мясцовым гарвыканкамам, на прыступках супермаркету "Амега" быў затрыманы няпоўнагадовы маладафронтавец Юрась Землякоў. Падлетка даставілі ў Першамайскі РАУС і там склалі пратакол аб адміністратыўным затрыманьні, нягледзячы на тлумачэньні, што акцыя дазволеная. З неафіцыйных крыніцаў стала вядома, што напярэдадні "Маршу..." быў аддадзены загад аб затрыманьні распаўсюджвальнікаў інфармацыі пра маючую адбыцца акцыю. Пра гэта сьведчыць і той факт, што, нягледзячы на дамову з гарадзкой рэкламнай службай, на рэкламных тумбах так і не зьявіліся афішы пра "Марш..." Як стала вядома, расклейку іх забараніў загадчык аддзелу па сувязях з грамадзкімі арганізацыямі Віцебскага гарвыканкаму І. Герасімаў.**

***14 сакавіка*** **ў судзе Цэнтральнага раёну г.Мінску адбыўся суд, на якім быў разгледжаны зыск старшыні Беларускай федэрацыі футболу Рыгора Фёдарава да рэдакцыі газеты "Прессбол". Дзеля абароны свайго гонару і годнасьці Р.Фёдараў запатрабаваў ад рэдакцыі выплаціць яму 65 мільёнаў рублёў (70 тысяч даляраў ЗША), што ў сёньняшняй эканамічнай сітуацыі ў Беларусі практычна б азначала банкруцтва і закрыцьцё газеты. Суд з 11 пунктаў абвінавачаньня зьняў 4 і зьменшыў памер "кампенсацыі" ў 54 разы да "прымальнай" сумы ў 1 мільён 200 тысяч рублёў. Чыноўніку не ўдалося з дапамогаю суда расправіцца з незалежнай газетай. "Прессбол", дарэчы, таксама падаў зыск да Р. Фёдарава і газеты БФФ "Всё о футболе".**

*(Працяг на стар.14-15)*

 



# Рэжым дэманструе сваю сутнасьць

(Пачатак на стар. 1)

Але ўжо за паўгадзіны да гэтага патрапіць на плошчу было амаль немагчыма. Перакрытыя былі і выхады з метро на станцыі "Плошча Якуба Коласа" (акрамя аднаго). Прыблізна ў гэты час пачалася і "зачыстка" плошчы ад тых, хто прыйшоў сюды раней. Прычым міліцыянты асабліва не разьбіраліся, хто перад імі: выпадковы мінак, бабулька, якая зайшла ў краму, ці... журналіст альбо назіральнік-праваабаронца. Сярод першых затрыманых быў і прадстаўнік місіі АБСЕ ў Беларусі Крыстафер Паніко, якому не ўдалося давесьці міліцыянтам, што ён дыпламат і мае дыпламатычную недатыкальнасьць. Зрэшты, яны яго і ня слухалі, а проста выконвалі, мяркуючы па нахабнасьці ды ўпэўненасьці, нечы загад.

Потым было наладжанае своеасаблівае паляваньне на журналістаў. Міліцыянты з групаў захопу і людзі ў цывільным дзейнічалі жорстка і груба. Былі разьбітыя камеры тэлежурналістаў з расійскіх ГРТ і РТР. Карэспандэнта РТР Алену Лукашэвіч міліцыянты цягнулі да сваёй машыны за валасы, апэратара ГРТ Дзьмітрыя Завадзкага "прылашчылі" гумавай дубінкай, карэспандэнту ГРТ Дзьмітрыю Наважылаву пры "захопе" разьбілі акуляры... Усяго было арыштавана 36 журналістаў, якія прадстаўлялі агенцтвы "Асашэйтэд прэс", Радыё "Свабода", тэлеканалы НТВ, РТР, ГРТ, ТВЦ, Польскую тэлевізію і шматлікія беларускія газеты (поўны сьпіс даецца на стар. 4). Адначасова вяліся арышты лідэраў апазіцыі, праваабаронцаў і "проста" грамадзянаў. Была праведзеная і "зачыстка" штаб-кватэры БНФ, якую штурмам узялі міліцыянты і арыштавалі ўсіх, хто там знаходзіўся. Усяго ў гэты дзень было затрымана больш за 500 чалавек (дакладнай лічбы няма, бо пратаколы складаліся не на ўсіх, многіх, пратрымаўшы па некалькі гадзінаў у пастарунку, проста адпускалі). Затрыманых развозілі па аддзелах міліцыі, а таксама ў металічны ангар на вуліцы Маякоўскага, які зьяўляецца спортзалай Белпалка. Сюды, дарэчы, прывозілі "асабліва важных": амаль усіх журналістаў, тут былі віцэ-сьпікер ВС 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька, галоўны рэдактар газеты "Рабочы" Віктар Івашкевіч, намесьнік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч і,



Ідзе "зачыстка" плошчы Якуба Коласа.




Той самы ангар...



Мітынг на плошчы Бангалор.

зразумела ж, Крыстафер Паніко. Усяго ў ангары ўтрымлівалася да 200 чалавек.

Аднак, нягледзячы на рэпрэсіі і масавыя затрыманьні, ад плошчы Якуба Коласа ўдзельнікі акцыі дзьвюма калонамі па некалькі тысячаў чалавек накіраваліся да плошчы Бангалор. Першая калона пайшла кароткім шляхам па вуліцы Веры Харужай. Але на вуліцы Максіма Багдановіча на яе напалі амапаўцы і разагналі людзей, некалькі чалавек затрымаўшы. А другая калона, якая пайшла шляхам "Маршу Свабоды-2"— па праспекце Скарыны і вуліцы Сурганава — да плошчы Бангалор дайшла. Тут і адбыўся мітынг, у якім прыняло ўдзел 10 тысячаў чалавек. На мітынгу выступілі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, старшыня БСДГ Мікола Статкевіч, дачка былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, які амаль год таму прапаў бяз вестак, Алена Захаранка, намесьнік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык ды іншыя. Пэўна таму, што асноўныя сілы міліцыянтаў "працавалі" ў гэты час у іншых мясьцінах гораду, мітынг прайшоў спакойна. Напрыканцы яго Вячаслаў Сіўчык запрасіў усіх 2 красавіка, у дзень, які Лукашэнка аб'явіў сьвятам яднаньня з Расіяй, прыйсьці да помніку Янку Купалу, каб ускласьці кветкі...

Чым была выкліканая гэткая жорсткасьць уладаў да мірнай акцыі апазіцыі? На гэты конт існуе шмат меркаваньняў. І бадай асноўная з іх — улады спалохаліся небывалай масавасьці дэманстрацыяў і вырашылі запалохаць людзей. Калі нават у халодны і непагодны дзень 15 сакавіка на "Марш Свабоды-2" выйшла, па розных падліках, да 50 тысячаў грамадзянаў, дык што будзе далей — лічылі, прымаючы рашэньне аб разгоне шэсьця ўдзельнікі нарады Савету бясьпекі, якая адбылася ўве-чары 24 сакавіка. Ёсьць і іншыя меркаваньні, у тым ліку і такія, што супярэчаць адно аднаму: жаданьне прыцягнуць увагу да Мінску і "падставіць" Лукашэнку, жаданьне "падыграць", дапамагчы Пуціну за дзень да прэзідэнцкіх выбараў у Расіі, паказаць сваю вернасьць Расіі і ідэі яднаньня... Нам жа здаецца, тое, што адбываецца сёньня ў Беларусі, ёсьць рэпетыцыя будучых падзеяў у Расіі, а таму, на жаль, расіяне, якім захацелася "моцнае рукі" ў сваёй дзяржаве, паглядзеўшы, як дзейнічае гэткая самая "рука" ў Мінску, галоўнае высновы 26 сакавіка не зрабілі...

**Андрэй НАЛІВА.**



 

# "...Кідалі тварамі на падлогу, білі нагамі і дубінкамі..."

## Сьведчаньні пацярпелых 25 сакавіка 2000 году

***На 29 сакавіка ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна" зьвярнуліся 138 грамадзянаў, якія пацярпелі ад дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі ў Дзень Волі 25 сакавіка. Прапануем увазе чытачоў "Права на волю" вытрымкі з іх заяваў са сьведчаньнямі пра тое, што адбывалася ў той дзень у Мінску.***



*З заявы Міхаіла Васілеўскага:* "У 11.30 на вул. Варвашэні я быў затрыманы ў сваёй машыне. Разам са мною знаходзіўся 2-гадовы сын. У мяне была рэквізаваная мая асабістая відэакамера. У гэты час мой двухгадовы сын застаўся ў машыне адзін, страшэнна напалоханы, моцна плакаў, бо бачыў, як мяне схапілі. Мяне падвезьлі да аўтазака, які стаяў каля школы міліцыі і пачалі туды запіхваць. На мае настойлівыя просьбы мяне адпусьціць ( бо засталося адно двухгадовае дзіцё ў машыне ў цэнтры гораду) яны не зьвярталі ўвагі. Толькі ў апошні момант палкоўнік, убачыўшы дзіцё ў машыне, загадаў мяне адпусьціць, пры гэтым абразіўшы".

*З заявы Алега Проніна:* "Мяне схапілі за рукі 4 супрацоўнікі міліцыі, а яшчэ некалькі чалавек пачалі мяне зьбіваць нагамі і дубінкамі. Зьбіваючы, пацягнулі ў мікрааўтобус".

*З заявы Ларысы Лапарскай:* "Мяне запхнулі ва УАЗік і завезьлі ў Савецкі РАУС. Па дарозе міліцыянт з імем Паша увесь час мне пагражаў. А ў тамбуры будынка РАУС і на лесьвіцы ён зьбіваў мяне і рваў мой пінжак. А ў мяне рэўматоідны артрыт. У пастарунку былі розныя людзі. Быў Івашкевіч, Чахольскі, Мая Тодараўна Кляшторная. А былі і зусім выпадковыя людзі. Была сталая жанчына. Вельмі бледная з хваравітым тварам. Яна гаварыла, што толькі што выпісалася са шпіталю. Яна была ў краме "Сталічны", дзе набыла прадукты. Наогул, у пастарунку было 8 сталых жанчын, ва ўзросьце каля 60 гадоў. Шмат было непаўнагадовых. Адзін 15-гадовы хлопчык увесь час пытаўся, за што яго схапілі? Ён казаў: "Я ехаў на працу да мамы". Ён нічога ня ведаў ні пра Дзень Волі, ні пра БНР і, здаецца, нават пра БНФ".

*З заявы Мікалая Новіка:* "Я прыехаў у Мінск па сваіх навуковых справах. Мне неабходна было ўдакладніць некаторыя пытаньні, зьвязаныя з Міжнароднай навуковай канферэнцыяй 6-7 красавіка ў Будапешце. Прыкладна каля 13 гадзінаў, калі праходзіў па плошчы Якуба Коласа, я быў схоплены людзьмі ў міліцэйскай форме. Ніякіх папярэджаньняў ці абвінавачаньняў у парушэньні грамадзкага парадку прадстаўлена мне не было. На мае просьбы назваць гэтыя людзі адказвалі бруднай лаянкай. Падчас майго затрыманьня аўтобус ужо быў цалкам запоўнены іншымі грамадзянамі. Я сьведчу, што ў аўтобусе людзей кідалі тварамі на падлогу (гэта адбылося і са мною), білі нагамі і дубінкамі, абражалі нацыянальную і чалавечую годнасьць, пагражалі".

*З заявы Мікалая Хаткевіча:* "25.03. 2000 г. я і мая жонка гандлявалі на адведзеным Мінгарвыканкамам месцы ў садавіна-гароднінай лаўцы, што каля крамы "Сталічны". (...) Раптам зьявіліся двое ў міліцэйскай форме, схапілі мяне за абедзьве рукі і пацягнулі ў "варанок", дзе ўжо сядзела 8-9 чалавек: адзін прасіўся

(Працяг на стар. 7)

## ЗША асуджаюць жорсткі разгон мірнага шэсця

### *Заява намесьніка прэс-сакратара Дзяржэпартаменту ЗША Джэймса ФОЎЛІ*

***ЗША асуджаюць неапраўдана жорсткае падаўленне беларускімі ўладамі мірнага шэсьця ў Мінску 25 сакавіка, арганізаванае ў гонар 82-й гадавіны стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Улады ўвялі ў цэнтр Мінска міліцыю з сабакамі, сьпецназ і бронетранспарцёры; было арыштавана ад 300 да 500 беларускіх грамадзянаў, многіх з якіх, як паведамляецца, зьбівалі. Сярод тых, хто стаў аб'ектам нападу, былі Анатоль Лябедзька, першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, дэпутат польскага парламенту Марыюш Камінскі і 35 журналістаў з Беларусі, Расіі і Польшчы. Улады затрымалі таксама грамадзяніна ЗША, акрэдытаванага пры Кансультатыўна-назіральнай групе АБСЕ, свядома парушыўшы яго дыпламатычны статус.***

***Падаўленьне рэжымам Лукашэнкі гэтай дэманстрацыі паказвае ягоную незацікаўленасьць у дыялогу. Мы патрабуем ад уладаў у Мінску неадкладна вызваліць усіх арыштаваных і паважаць свабоду слова і сходаў.***

*Вашынгтон, 27 сакавіка 2000 г.*

# "Гуманізм" па-беларуску

## Піначэтаўцы звозілі затрыманых на стадыён, Лукашэнкаўцы — у спортзалу. Бо ў Беларусі вёсны больш халодныя...

Затрыманыя 25 сакавіка грамадзяне развозіліся міліцыянтамі і асобамі ў цывільным па усіх раённых аддзелах унутраных справаў Мінску. Па ацэнках праваабаронцаў, у кожны з райаддзелаў было дастаўлена ад 30 да 80 чалавек. Акрамя таго, затрыманых адвозілі ў вайсковую частку на вуліцы Грушаўскай, дзе ўтрымлівалася каля 70 чалавек. Каля 100 чалавек былі завезеныя ў сьпецразьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна. Каля 200 затрыманых былі дастаўленыя ў частку ўнутраных войскаў на вул. Маякоўскага. У гэтай групе сярод затрыманых было шмат журналістаў, замежных грамадзянаў, праваабаронцаў і міжнародных назіральнікаў.



Група журналістаў і праваабаронцаў па выхадзе з ангару-спортзалы Белпалка.

**По зьвестках Праваабарончага Цэнтру "Вясна" 25 сакавіка ў Мінску былі затрыманыя...**

**...Асобы, якія валодаюць дыпламатычнай недатыкальнасьцю:**

1. *Крыстафер Паніко* — прадстаўнік місіі АБСЕ ў Беларусі.
2. *Марыюш Каміньскі* — дэпутат Польскага сэйму.

**...Журналісты:**

1. *Ірына Халіп* — газета "Белорусская деловая газета".
2. *Алег Грузьдзіловіч* — газета "Наша Свабода".
3. *Валер Каліноўскі* — Радыё Свабода.
4. *Тацяна Сьнітко* — газета "Украіна Маладая".
5. *Марына Бабкіна* — "Асашыэйтэд-прэс".
6. *Аляксей Шыдлоўскі* — газета "Наша Свабода".
7. *Ягор Маёрчык* — Радыё "Свабода".
8. *Альгерд Невяроўскі* — газета "Наша Ніва".
9. *Вадзім Казначэеў* — часопіс "Кур'ер".
10. *Любоў Лунёва* — Радыё "Свабода".
11. *Уладзімір Карміпкін* — фотакарэспандэнт, БАЖ.
12. *Ларыса Ключнікава* — "ИТАР-ТАСС".
13. *Алена Лукашэвіч* — здымачная група РТР.
14. *Сяргей Пушкін* — здымачная група РТР.
15. *Дзьмітры Завадзкі* — здымачная група ГРТ.
16. *Дзьмітры Наважылаў* — здымачная група ГРТ.
17. *Канстанцін Марозаў* — здымачная група НТВ.
18. *Аляксандр Калпакоў* — здымачная група НТВ.
19. *Леанід Канфер* — здымачная група ТВЦ.
20. *Тацяна Папова* — газета "Згода".
21. *Аляксандр Тамковіч* — газета "Свободные новости".
22. *Славамір Адамовіч* — газета "Наша Ніва".
23. *Валерый Дранчук* — газета "Белавежская пушча".
24. *Сяржук Міхальчык* — сябра БАЖ.
25. *Юры Дзядзінкін* — фотакарэспандэнт, БАЖ.
26. *Паліна Сьцепаненка* — бюлетэнь ПЦ "Вясна" – "Права на волю".
27. *Мар'я Вярнікоўска* — здымачная група першай праграмы Польскай тэлевізіі.
28. *Шымон Галеўскі* — здымачная група першай праграмы Польскай тэлевізіі.
29. *Юры Дракахруст* — Радыё "Свабода".
30. *Міхась Стэльмах* — Радыё "Свабода".
31. *Дзьмітры Ярмак* — газета "Беларуская газета".
32. *Аляксандр Ціханаў* — газета "Маладзёвы прасьпект".
33. *Арсен Скаруліс* — газета "Навінкі".
34. *Валянцін Герновіч* — газета "Рабочы".
35. *Аляксей Пакроўскі* — здымачная група ТВЦ.
36. *Віктар Драчоў* — фотакарэспандэнт.
37. *Валеры Шчукін* — газета "Народная воля" (затрыманы ў г.Віцебску).



Сяргей ПУШКІН (РТР) з разьбітай міліцыянтамі тэлекамерай.

**...Прадстаўнікі Праваабарончых арганізацыяў Беларусі:**

1. *Тацяна Процька* — старшыня Беларускага хельсінкскага камітэту.
2. *Алег Воўчак* — старшыня арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву.
3. *Валянцін Стэфановіч* — намесьнік старшыні Праваабарончага Цэнтру "Вясна".
4. *Вадзім Канапацкі* — назіральнік ПЦ "Вясна".
5. *Алесь Сарнацкі* — назіральнік ПЦ "Вясна".
6. *Кірыл Базьнікін* — назіральнік ПЦ "Вясна".
7. *Зьміцер Маркушэўскі* — назіральнік Беларускага хельсінкскага камітэту.
8. *Алесь Данільчык* — назіральнік ПЦ "Вясна".

**...Лідэры партыяў і рухаў:**

1. *Анатоль Лябедзька* — дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, намесьнік старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай партыі (быў зьбіты нагамі па нырках).
2. *Віктар Івашкевіч* — намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту, галоўны рэдактар газеты "Рабочы".
3. *Юрась Беленькі* — выконваючы абавязкі старшыні Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ (быў моцна зьбіты пры затрыманьні).
4. *Анатоль Крыварот* — Кансерватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ.
5. *Якаў Гутман* — Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларускіх яўрэяў.

Акрамя таго, было арыштавана восем грамадзянаў Польшчы і адзін — Чэхіі.

# Абаронім права на свабоду слова

## Заява грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская асацыяцыя журналістаў" па факце масавага затрыманьня журналістаў і выкарыстаньня ў дачыненьні да іх грубай фізічнай сілы работнікамі органаў аховы парадку 25 сакавіка 2000 году

Беларуская асацыяцыя журналістаў паведамляе, што 25 сакавіка 2000 г., падчас сьвяткаваньня 82-й гадавіны з дня абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі ў горадзе Мінску, міліцыянтамі і сьпецслужбамі было затрымана больш за 30 журналістаў. З асаблівым імпэтам адбывалася затрыманьне акрэдытаваных у краіне карэспандэнтаў расійскіх тэлеканалаў ГРТ, РТР і НТВ. Пры гэтым была пашкоджаная тэлеапаратура з мэтай не дазволіць падрыхтоўку тэлесюжэтаў. Супрацоўнікі здымачных групаў, іншыя журналісты замежных і беларускіх СМІ былі прымусова дастаўленыя на тэрыторыю вайсковай часткі МУС па вул. Маякоўскага ў Мінску.

Нікому з затрыманых не патлумачылі прычыны затрыманьня, некаторыя журналісты былі падвергнутыя супрацьпраўнаму асабістаму вобыску, усім было забаронена паведаміць пра сваё затрыманьне ў рэдакцыі, а таксама сваякам і блізкім. Рабіліся спробы надзець кайданкі на рукі. Засьвечваліся адзьнятыя стужкі ў фотакарэспандэнтаў.

Кіраўнікам Беларускай асацыяцыі журналістаў, якія прыехалі на месца знаходжаньня затрыманых, супрацоўнікі МУС адмовіліся даць інфармацыю пра прычыны затрыманьня. Ніхто з гэтых супрацоўнікаў не назваў сваю пасаду і прозьвішча.

Праз некалькі гадзінаў, пасьля прыбыцьця прэсавага сакратара міністра ўнутраных справаў падпалкоўніка міліцыі Дзмітрыя Партона большая частка журналістаў была вызваленая. Некаторых вывезьлі за межы Мінску і там пакінулі.

Падрабязнасьці беспрэцэдэнтнага за апошнія гады гвалтоўнага акту ўладаў высьвятляюцца.

У чарговы раз уладамі Беларусі было груба парушанае канстытуцыйнае права грамадзянаў на атрыманьне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі пра дзейнасьць дзяржаўных органаў і палітычнае жыцьцё краіны, а таксама палажэньні Закону Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Артыкул 39 гэтага Закону сьведчыць, што журналіст мае права "... прысутнічаць у раёнах стыхійных бедстваў, аварыяў і катастрофаў, ваенных дзеяньняў, мясцовасьцях, дзе абвешчанае надзвычайнае становішча, на мітынгах і дэманстрацыях, на месцы грамадзка важных падзеяў і перадаваць адтуль інфармацыю".

Беларуская асацыяцыя журналістаў выказвае рашучы пратэст супраць адкрытай і цынічнай расправы над журналістамі, якія выконваюць свае прафесійныя абавязкі.

Мы патрабуем ад уладаў прыняць меры па неадкладным расьсьледваньні абуральнага інцыдэнту і прыцягнуць вінаватых да адказнасьці.

Мы зьвяртаемся да грамадзянаў Беларусі з заклікам выступіць у абарону правоў журналістаў свабодна зьбіраць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю.

Мы заклікаем усіх калегаў, журналісцкую супольнасьць, міжнародныя праваабарончыя арганізацыі выказаць салідарнасьць у барацьбе за свабоду слова на Беларусі.

*25.03.2000 г.*
*г. Мінск*



Прэс-сакратар МУС Дзмітрый ПАРТОН прыехаў разьбірацца.



Прэс-канферэнцыя ва ўправе БНФ па выніках "Дня Волі".

# Валерыя Шчукіна ведаюць і ў Віцебску

25 сакавіка ў Віцебску сьвяткавалі Дзень Волі, прысьвечаны 82-м угодкам абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. У 12.00 каля абласной бібліятэкі сустрэліся кіраўнік Кансерватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ у Віцебску Уладзімір Плешчанка і сябра гэтай партыі Раман Салаўян. Да іх падышоў ганаровы сябра Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Валеры Шчукін. Міліцыянты запатрабавалі ад В.Шчукіна, каб ён адышоў ад бібліятэкі. В.Шчукін адмовіўся. Тады міліцыянты затрымалі У.Плешчанку, Р.Салаўяна і В.Шчукіна і завезьлі ў РАУС Чыгуначнага раёну.

У той жа час ад праваслаўнай царквы, што стаіць насупраць бібліятэкі, рушыла група грамадзянаў. Наперадзе ішоў Дзьмітры Піменаў з абразом Маці Божай. На плошчы Свабоды ўсе ўдзельнікі шэсьця былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі і дастаўленыя ў РАУС Кастрычніцкага раёну, дзе адразу адбыўся суд. Д.Піменаў, Ю. Карпаў і Г.Васілеўскі атрымалі па трое сутак адміністратыўнага арышту. В.Канавалаў, І.Марозаў атрымалі адміністратыўнае пакараньне ў выглядзе штрафу ў 20 мінімальных заробкаў. В. Мялежка і В.Акулаў атрымалі папярэджаньні.

Валеры Шчукін у чаканьні суда двое сутак правёў за кратамі ў прыёмнікуразьмеркавальніку Упраўленьня ўнутраных справаў Віцебскага аблвыканкаму. 27 сакавіка яго даставілі ў суд. Падчас суда было пацьверджана, што В. Шчукін прыехаў у Віцебск як карэспандэнт газеты "Народная воля" і ў момант арышту браў інтэрв'ю ў старшыні Віцебскай рады КХП БНФ Уладзіміра Плешчанкі. Аднак судзьдзя вынес прысуд В. Шчукіну — дзесяць сутак арышту за "супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі". Пасьля выхаду з-за кратаў В.Шчукіна чакае ў Віцебску яшчэ адзін суд — "за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу".

**Наш кар.**

# Будзе аб'яўлены вышук...

## Прызначаны на 30 сакавіка суд над чатырма ўдзельнікамі "Маршу Свабоды-1" не адбыўся

На 30 сакавіка ў Мінскім гарадзкім судзе былі прызначаныя слуханьні па крымінальнай справе супраць чатырох удзельнікаў "Маршу Свабоды-1" – Глеба Догіля, Германа Сушкевіча, Андрэя Валабуева і Антона Лазарава. Гэтыя маладыя людзі былі затрыманыя адразу пасьля акцыі і пэўны час утрымліваліся ў сьледчым ізалятары на вул.Валадарскага. Толькі пад уздзеяньнем міжнародных праваабарончых арганізацыяў і місіі АБСЕ перад самітам АБСЕ у Стамбуле мера стрыманьня іх была зьмененая на падпіску аб нявыезьдзе, але крымінальная справа не была спыненая.

Адразу пасьля ўзбуджэньня Гарадзкой пракуратурай г.Мінска крымінальнай справы супраць Г.Догіля, Г.Сушкевіча, А.Валабуева і А.Лазарава абвінавачаньне было прад'яўленае па адным артыкуле Крымінальнага кодэксу – 186.3 – "арганізацыя альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, груба парушаючых грамадзкі парадак...." Па узбуджанай крымінальнай справе ў адной вытворчасьці спачатку праходзілі і вядомыя дзеячы апазіцыі М.Статкевіч і В.Шчукін, але ў студзені 2000 году справа чатырох маладых хлопцаў была нечакана выдзеленая ў асобную вытворчасьць і абвінавачаньне ўзмоцненае яшчэ адным артыкулам Крымінальнага кодэксу – 201 ч.2 – "злоснае хуліганства". Максімальнае пакараньне, якое прадугледжваецца апошнім артыкулам – 5 гадоў пазбаўленьня волі.

Справа Г.Догіля, Г.Сушкевіча, А.Валабуева і А.Лазарава 1 сакавіка была накіраваная пракуратурай у Мінскі гарадзкі суд. На 30 сакавіка была прызначаная дата судовага паседжаньня. Справу павінен быў разглядаць судзьдзя Валеры Камісараў, але суд не пачаўся... Як стала вядома Праваабарончаму Цэнтру "Вясна", Г.Догіль, Г.Сушкевіч, А.Валабуеў і А.Лазараў пакінулі межы Беларусі і папрасілі палітычнага прытулку ў адной з заходніх краінаў.

У сувязі з гэтым, судзьдзя В. Камісараў зьвярнуўся да праваахоўных органаў з патрабаваньнем абвясьціць крымінальны вышук зьнікшых падсудных і зьмяніў меру стрыманьня з падпіскі аб нявыезьдзе на арышт. Калі пошук ня дасьць станоўчых вынікаў, як заявіў судзьдзя, магчыма правядзеньне судовага працэсу без удзелу падсудных (згодна з нормамі Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ).

# Гэта ёсьць катаваньне

## Скончыўся 35-сутачны тэрмін адміністратыўнага арышту сябра БСДП "Народная Грамада" Алеся Абрамовіча

23 сакавіка ў Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнуўся Алесь Абрамовіч, актывіст Барысаўскага аддзяленьня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада", сябра БХК. Ён паведаміў, што з 14 лютага па 20 сакавіка 2000 году (35 сутак) адбываў адміністратыўнае пакараньне ў ізалятары часовага ўтрыманьня Барысаўскага ГАУС за арганізацыю трох пікетаў на праваабарончую тэматыку.

Варта нагадаць, што сябры Барысаўскага аддзяленьня БСДП "Народная Грамада", г.зн. арганізатары пікетаў, па дазвол на іх правядзеньне да гарадзкіх уладаў не зьярталіся, паколькі лічаць існуючую ўладу нелегітымнай з 21 ліпеня 1999 году, і сваім рашэньнем ад 8 жніўня 1999 году абвясьцілі пра грамадзянскае непадпарадкаваньне.

Першае пакараньне (15 сутак адміністратыўнага арышту) было вынесенае А.Абрамовічу за арганізацыю ў Барысаве сёлета 16 студзеня на цэнтральнай плошчы несанкцыянаванага пікету супраць дыктатуры ў Беларусі і з патрабаваньнем пошуку зьніклых дзеячаў беларускай апазіцыі пад лозунгамі: "Дыктатура ня пройдзе!", "Захаранка, Ганчар... Хто наступны?", "Рукі прэч ад Чыгіра!" Тады былі затрыманыя і асуджаныя за парушэне арт. 167.1 ч.1 КаАП РБ (парушэньне парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў) старшыня Барысаўскага аддзяленьня БСДП "Народная Грамада" Генадзь Гаўрусеў (7 сутак арышту), старшыня Барысаўскай рады БНФ Анатоль Аскерка (3 сутак) і Алесь Абрамовіч (15 сутак арышту). Суд над Алесем Абрамовічам адбываўся 8 лютага, і, нягледзячы на тое, што абвінавачваемы ў суд не зьявіўся, яму завочна быў вынесены прысуд.

Наступнае пакараньне ў выглядзе 10 сутак адміністратыўнага арышту было вынесенае Алесю Абрамовічу за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце ў Барысаве 6 лютага. У гэтым пікеце бралі ўдзел таксама актывісты Барысаўскай маладзёжнай арганізацыі "Маладая Грамада". Пікет быў накіраваны супраць вайны ў Чачні і праходзіў пад лозунгамі: "Рукі прэч ад Чачні!", "Свабоду чачэнскаму народу!", "Далоў расійскі імперыялізм!". На пікетчыкаў, якія сабраліся на цэнтральнай плошчы гораду, былі складзеныя адміністратыўныя пратаколы за парушэньне арт. 167.1 ч.1 КаАП РБ – на Анатоля Цялежнікава (паколькі ён непаўнагадовы, дык атрымаў папярэджаньне), Кастуся Кузьняцова (атрымаў 3 сутак арышту); за парушэньне арт. 167.1 ч.2 КаАП – Зьміцера Абрамовіча (пакараны на 7 сутак арышту) і Алеся Абрамовіча (10 сутак арышту).

Затрыманы А.Абрамовіч быў 14 лютага падчас правядзеньня каля будынку Барысаўскага гарадзкога суда пікету супраць карупцыі і ў падтрымку барысаўскага прадпрымальніка Ігара Ледніка, суд над якім распачаўся ў Барысаўскім судзе ў гэты дзень. На думку арганізатараў пікету, прадпрымальнік незаконна арыштаваны і ягоная справа надуманая, таму яны і сабраліся, каб выказаць пратэст супраць гэтага беззаконьня. Алесь Абрамовіч быў дастаўлены ў ізалятар часовага ўтрыманьня Барысаўскага ГАУС. Назаўтра, 15 сакавіка адбыўся суд, на якім затрыманы атрымаў пакараньне за ўдзел у акцыях 6 і 14 лютага (па 10 сутак), а таксама было дададзенае пакараньне за пікет 16 студзеня (15 сутак), таму тэрмін, які А.Абрамовічу давялося правесьці за кратамі, склаў 35 сутак. Адбыўшы іх, актывіст "Народнай Грамады" зьвярнуўся з заявай у Праваабарончы Цэнтр "Вясна".

У сваёй заяве Алесь Абрамовіч напісаў так: "Гэтае маё працяглае зьняволеньне я кваліфікую як катаваньне па наступных прычынах:

— мне адмаўлялася ў прагулках усе 35 сутак, што вельмі дрэнна адбілася на маіх лёгкіх,

— у камеру, дзе я сядзеў, неаднаразова зьмяшчалі асуджаных з адкрытай формай туберкулёзу, што катэгарычна забаронена санітарнымі нормамі. Асуджаныя папярэджвалі пра свае захворваньні міліцыянтаў перад зьмяшчэньнем іх у камеру са здаровымі людзьмі. Я ведаю прозьвішчы хворых з адкрытай формай туберкулёзу, якія сядзелі са мной у адной камеры: Генадзь Сакалоўскі сядзеў са мной чатыры дні, Анатоль Маісеенка – два дні, прычым на другі дзень у яго пачалося крывахарканьне і тэрмінова была выкліканая хуткая дапамога. Дактары, якія прыехалі і агледзелі Анатоля Маісеенку, сказалі, што з ім нельга побач дыхаць, а ня тое што сядзець у адной камеры. А.Маісеенка разам з Г.Сакалоўскім былі адразу выпушчаныя на волю пасьля агляду дактароў,

— у камеры існуюць антысанітарныя ўмовы: сьпертае вільготнае паветра, наяўнасьць клапоў і вошай".

Трэба адзначыць, што за сваю грамадзянскую пазіцыю Алесь Абрамовіч за мінулы, 1999, і сёлетні гады затрымліваўся і арыштоўваўся шэсьць разоў. Агульная колькасьць часу, які ён правёў за кратамі, адбываючы адміністратыўныя пакараньні, складае 62 сутак.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# "...Кідалі тварам на падлогу, білі нагамі і дубінкамі..."

(Пачатак на стар. 3)

ў прыбіральню, на прыступках якой ён быў схоплены, дайсьці да прыбіральні яму не дазволілі міліцэйскія кардоны (калі хто ня ведае, гэтая "знакамітая" установа знаходзіцца ў двары за ЦУМам), другі прасіўся на свае ўласныя імяніны (хлопец устаў з-за стала, каб схадзіць у "Сталічны" па прадукты)".

*З заявы Уладзіміра Халіпа:* "25 сакавіка падчас масавага захопу ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі я, беларускі пісьменьнік, Уладзімір Халіп, разам з дачкой, журналісткай Ірынай Халіп быў затрыманы міліцыянтамі. На маё патрабаваньне назваць свае прозьвішчы яны ніяк не адрэагавалі. Затрыманьне з ужываньнем грубай фізічнай сілы адбылося на плошчы Якуба Коласа перад будынкам філармоніі ў 12 гадзінаў 17 хвілінаў. Нас старанна абшукалі. На працягу дня яны паўтарылі вобыск тройчы, кожны раз патрабуючы ў мяне зброю. Нас заштурхнулі ў аўтазак, дзе людзей было ўжо столькі, што ніхто ня мог варухнуцца. Калі нас павезьлі, старэйшыя людзі ад недахопу паветра пачалі задыхацца, але на нашыя патрабаваньні дапамагчы ім канваіры не зьвярнулі ўвагі. Нас адвезьлі ў вайсковую частку на вуліцы Маякоўскага, дзе трымалі ў ангары некалькі гадзінаў пад аховай салдатаў унутраных войскаў. Разам са мною там утрымлівалася больш за 200 чалавек.

Апаратыўнікі старанна агледзелі ўсе паперы, якія былі ў мяне, зрабілі здымкі ў фас і профіль, надаўшы кожнаму з нас парадкавы нумар. Каля 17 гадзінаў нас выпусьцілі з тэрыторыі вайсковай часткі. Але ледзь мы выйшлі на вуліцу, як усьлед выбег афіцэр і загадаў неадкладна зьнікнуць, бо калі мы гэтага ня зробім, нас арыштуюць і адвязуць ў сьпецразьмеркавальнік. Гэтыя дзеяньні лічу грубым парушэньнем маіх канстытуцыйных правоў".

*З заявы Адама Шпакоўскага:* "Я зьдзівіўся, што плошча Якуба Коласа ахоўваецца міліцыяй, і зьвярнуўся да міліцыянта, выпадкова назваўшы яго (маёра) лейтэнантам. Ён ускіпеў, пачаў адштурхоўваць мяне і даў загад сваім затрымаць. Аніякага сходу ці мітынгу на гэтым месцы я не назіраў. Праз некаторы час той самы маёр падвёў да машыны (нумар МН 02-62) затрымананага. Убачыўшы мяне на заднім сядзеньні, маёр зноў разьюшыўся, ударыў мяне ў твар спачатку антэнай рацыі, потым кулаком, разьбіўшы мне нос".

*З заявы Андрэя Небышынца:* "Калі я ўбачыў, што каля мяне схапілі жанчыну, я падышоў і адцягнуў яе ад міліцыянта. Тады яны адпусьцілі жанчыну і схапілі мяне. Мне ў вочы пырснулі сьлезацечным газам і пасьля гэтага запхнулі ў машыну".

*З заявы Сяргея Селезьня:* "25.03. 2000 каля крамы "Сталічны" я быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі без усялякіх на тое прычынаў. Праседзеў у Савецкім РАУС амаль 5 гадзінаў, пасьля чаго быў дастаўлены ў сьпецразьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна, дзе прабыў 2 сутак. 27. 03. 2000 г. мяне даставілі ў Савецкі суд для разгляду маёй справы".

*З заявы* Сяргея Вяргейчыка: "25 сакавіка я і мой таварыш, Канапелька Сяргей, купілі піва ў краме каля кінатэатра "Октябрь" і пілі яго. Нечакана пад'ехаў аўтобус, з яго выбеглі прыкладна, 8-10 міліцыянтаў і нас арыштавалі. Нас прывезьлі ў вайсковую частку на вул. Маякоўскага, пратрымалі да 17.00, пасьля гэтага адвезьлі ў Партызанскі РАУС, дзе склалі пратаколы і трымалі да 20.00. Потым адвезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна і пратрымалі там 2 сутак. 27.03. 2000 г. нас прывезьлі ў суд Савецкага раёну. Судзьдзя выклікала двух як быццам бы сьведкаў — міліцыянтаў з Партызанскага РАУС. Адзін з іх мяне не пазнаў, а другі сказаў, што затрымаў мяне каля філармоніі".



**Чарнаскуры беларус, затрыманы на плошчы Якуба Коласа, выходзіць з ангара-спортзалы...**

*З заявы Івана Курмановіча:* "Я быў схоплены салдатамі ў зялёнай камуфляжнай форме без усялякіх на тое падставаў. У руках у мяне былі толькі газеты "Белорусская деловая газета" і "Народная воля". І хоць я прад'явіў чарнобыльскае пасьведчаньне з фотакарткай і сказаў, што я былы падпалкоўнік міліцыі, мяне закінулі ў клетку з кратамі ў "варанку".

*З заявы Аляксея Шыдлоўскага:* "Я быў зьбіты з ног, пасьля чаго мне скруцілі рукі, нанесьлі кантрольны ўдар ў сонечнае спляценьне, закінулі ў мікрааўтобус з АМАПАам, тварам на падлогу. На мяне закінулі яшчэ трох чалавек, ад чаго сьціснулася мая грудная клетка і стала цяжка дыхаць. У адказ на спробу паведаміць, што я журналіст, мяне аблаялі. Пасьля адвезьлі ў спортзалу — металічны ангар на вуліцы Маякоўскага".

*З заявы Валерыя Рудэнкі:* "Пры выхадзе з гастранома "Сталічны" мяне без тлумачэньня прычыны схапілі за рукі два міліцыянты і пацягнулі ў міліцэйскую машыну-будку. У будцы я сядзеў у адзіночным адсеку. Высадзілі ў невядомым месцы. Там было шмат замежнікаў і журналістаў. Праз некалькі гадзінаў некалькі чалавек (у тым ліку і мяне) павезьлі ў невядомым накірунку. Без ніякіх тлумачэньняў высадзілі на краі горада ў раёне Чыжоўка."

*З заявы* Аляксандра Карызны: "Я пенсіянер, маю 69 гадоў. 25 сакавіка я сядзеў на лаўцы каля філармоніі. (...) Мяне схапіла каманда з чатырох чалавек з сабакамі і зачыніла ў клетку за кабінай кіроўцы, насупраць дзьвярэй. У 12.45 пачуў адчайныя крыкі: "Людзі ратуйце!". У машыну закінулі сталую жанчыну ў паліто з сінім ацёчным тварам. Яна са сьвістам дыхала: ці то ад сардэчнага прыступу, ці то ад астмы. Жанчына прасіла канвіраў адпусьціць яе, выклікаць доктара, і паветра, паветра... Маладзенькі белагаловы канваір адкрыў верхні люк машыны і сказаў, што гэта ўсё, што ён можа для яе зрабіць. Яе запхнулі ў другую клетку, каля дзьвярэй лёг сабака. (...) І вось мы ўжо ў сьпецразьмеркавальніку. У глыбіні залы бачу Юрыя Беленькага з КХП БНФ. Твар у крывападцёках. "Мяне білі", — сказаў ён мне".

*З заявы Сьвятланы Канойка:* "Усіх нас прыніжалі, абражалі, было вельмі шмат зьбітых людзей. Не было ніякай магчымасьці паведаміць блізкім, дзе мы знаходзімся. Тэлефанаваць не дазвалялі. Сталаму мужчыну стала кепска, яму нават не далі вады".

## Андрэй Клімаў:
# "Лукашэнка баіцца мяне. І я гэтаму толькі рады"

17 сакавіка скончыўся працэс па справе дэпутата Вярхоўнага Савету Андрэя Клімава. Калегія Ленінскага раённага суда Мінску пад старшынствам судзьдзі Тупік разьбіралася з дэпутатам-прадпрымальнікам сем месяцаў. У выніку А. Клімаў быў прызнаны вінаватым па двух крымінальных артыкулах: 91 ч.4 (крадзёж маёмасьці ў асабліва буйных памерах па папярэдняй змове з групай асобаў) і 171 (падбухторваньне да службовага падлогу). Вердыкт суда – шэсьць гадоў пазбаўленьня волі ў калоніі і трохгадовае пазбаўленьне права займаць кіруючыя пасады на прадпрыемствах любой формы ўласнасьці.



Арышт дэпутата Клімава нарабіў шмат шуму два гады таму. Ужо тады ніхто не сумняваўся ў палітычным падтэксьце падзеяў. Першапачаткова фармальнай падставай арышту стала абвінавачаньне ў парушэньні парадку прадпрымальніцкай дзейнасьці. За паўтары гады сьледчыя змаглі дадаць да гэтага яшчэ тры пункты: службовы падлог, крадзяжы ў асабліва буйных памерах і выманьваньне крэдыту. Разам з Клімавым ў ролі падсудных апынулася яшчэ восем чалавек. Асноўным аб'ектам разьбіральніцтва стаў дом, здадзены год таму будаўнічай фірмай А.Клімава па вуліцы Лодачнай у Мінску. Як сьцьвярджалася ў абвінаваўчым заключэньні і потым было прызнана судом, прадпрыемства, якое ўзначальваў Клімаў, з 1993 па 1999 гады (гэта значыць – на працягу будаўніцтва дома) сістэматычна прысвойвала бюджэтныя грошы па сфальсіфікаваных дакументах.

Дамова на будаўніцтва гэтага дому была заключаная паміж фірмай Клімава і УКБ Мінгарвыканкаму 20 мая 1993 году. Тады многае было інакш. Андрэй Клімаў яшчэ не абраны ў Вярхоўны Савет, ён проста будуе дамы і хутка набывае вядомасьць як адзін з самых маладых і перспэктыўных прадстаўнікоў айчыннага бізнэсу. Лукашэнка яшчэ нават не балатуецца ў прэзідэнты, ён нават яшчэ не пасьпеў закацiць скандал у парламенце са "скрынкай цьвікоў" і зьняць з пасады тагачаснага сьпікера Станіслава Шушкевіча.

Паспрабуем прасачыць, як разгорталіся падзеі вакол Андрэя Клімава ад самага пачатку.

З паказаньняў шматлікіх сьведкаў, былых супрацоўнікаў будаўнічай фірмы А.Клімава, бачна: пры заключэньні дамовы на будаўніцтва дому па вуліцы Лодачнай іх папярэдзілі, што дом – элітны, ён мае статус дыпламатычнага, і паставілі задачу правесьці работы паскоранымі тэмпамі, не зьніжаючы ў той жа час іх якасьці. Можна меркаваць, што абраньне дзяржаўнай структурай на ролю падрадчыка менавіта гэтага прадпрыемства сьведчыць аб даверы да яго супрацоўнікаў і прызнаньні якасьці іх працы.

Праходзіць год. У дадатак да ўласнай фірмы і банку, Андрэй Клімаў пачынае выдаваць незалежную газету, якую называе сваім імем. Лукашэнку абіраюць прэзідэнтам. Газета А.Клімава, заўсёды вострая на слоўца, праз некалькі месяцаў пачынае праходзіцца лёгкай крытыкай па стылі кіраўніцтва вышэйшага беларускага чыноўніка. Тым часам, як высьвятліцца пасьля, менавіта ўвосень 1994-га году супрацоўнікі малога прадпрыемства Андрэя Клімава знаходзяць некаторыя неадпаведнасьці ў разьліковай дакументацыі на будаўніцтва дома для дыпламатаў. Між іншым, праект гэтага будынку быў зроблены яшчэ ў 1984 годзе, а разьлік каштарысу на будаўніцтва – у 1986-м. І ў дакументы закралася памылка "па пазіцыі 19" каштарысу...

Праходзіць яшчэ год. Крытыка Лукашэнкі ў газеце мацнее. Пасьля рэферэндуму аднаго журналіста клімаўскага выданьня саджаюць на 15 сутак за значок – бел-чырвона-белы сьцяг. А.Клімаў балатуецца ў дэпутаты парламенту. У гэты час яго газету "падстаўляюць": адзін з журналістаў піша матэрыял, які грунтуецца на кампрамаце органаў бясьпекі супраць іншага кандыдата ў дэпутаты. Абіраюць у парламент абодвух. Але газету А.Клімаў неўзабаве зачыняе. А на будаўніцтве дому для дыпламатаў па вуліцы Лодачнай у гэты час без усялякага рэзанансу для грамадзтва рабочыя кладуць цагляную кладку. Работы па кладцы цэглы вядуцца дзесяць месяцаў. Да А.Клімава як кіраўніка малога прадпрыемства і да кіраўнікоў будаўніцтва падначаленыя даводзяць інфармацыю аб завышаных з самага пачатку (яшчэ ў праектна-каштарыснай дакументацыі) аб'ёмах цэглы. А.Клімаў дае загад, кажучы будаўнічай мовай, працэнтаваць матэрыялы па каштарысу. Потым яму давядзецца тлумачыць, чаму: ён меркаваў не парушаць графіку будаўніцтва, каб здаць гатовы аб'ект у дамоўлены з заказчыкам тэрмін. Канчатковыя ўзаемаразьлікі абодва бакі – УКБ Мінгарвыканкаму і МП Андрэя Клімава — змогуць добраахвотна правесьці перад здачай дому. Так меркаваў прадпрымальнік (які, нагадаем, да таго часу вопыт у будаўніцтве ўжо меў).

Час ішоў. Краіну пачаў трэсьці палітычны крызіс. 1996 год запомніўся ўсяму сьвету беларускім так званым рэферэндумам. Лістапад гэтага году – апагей крызісу адносінаў паміж галінамі ўлады – запомніўся прынцыповай пазіцыяй часткі дэпутатаў. Клімаў быў адным зь іх.

Добра памятаю тое паседжаньне сесіі Вярхоўнага Савету. У сваім нататнічку я тады запісала: "26.11.96 г. У 10 гадзін пачалося пасяджэньне сесіі Вярхоўнага Савету. Другім пасьля С.Багданкевіча выступае А.Клімаў.

**З каментароў у зале суда:**

***"На наш погляд, гэта была пародыя на справядлівасьць. Яшчэ некалькі гадоў таму нам стала вядома, што дэпутат Клімаў – праціўнік прэзідэнта Лукашэнкі. Гэты суд – яскравы прыклад палітычнага перасьледу. Зараз я буду неадкладна тэлефанаваць у Лондан. Мы плануем не толькі прыняць заяву, што датычыць асуджэньня Клімава, але і распачаць вялікую акцыю па абароне асуджанага апазіцыянера".***

Маці ПРЫНГЛ,
назіральнік "Amnesty International",
Лондан.

"Сёньня, 26 лістапада 1996 году, учынены дзяржаўны пераварот, — кажа ён. — Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка стварыў свой незаконны "парламент"...". Дэпутат Клімаў заклікаў старшыню Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага ўзяць на сябе функцыі кіраўніка дзяржавы. Лукашэнку дэпутат назваў "былым прэзідэнтам", выказаўшы думку, што яго трэба арыштаваць і аддаць пад суд. А.Клімаў, які зьяўляецца адстаўным афіцэрам унутраных войскаў, выказаў сваю гатоўнасьць даставіць Лукашэнку пад арышт уласнаручна.

Старшыня ВС С.Шарэцкі назваў прамову дэпутата Клімава залішне эмацыйнай.

Дэпутат А.Домаш папрасіў калегу А.Клімава не рабіць больш такіх заяваў: прыйдзе час, і злачынцы будуць пакараныя.

Дэпутат С.Шушкевіч заклікаў парламент захоўваць адзінства, каб не зламацца: "Тут сабраліся самыя сумленныя людзі. Трэба выжыць, потым разьбярэмся ў нашых поглядах".

**З каментароў у зале суда.**

***"Андрэй Клімаў пабудаваў самы прыгожы дом у Мінску, а яму далі за гэта шэсьць гадоў турмы... Я думаю, што гэты прысуд будзе перагледжаны і будзе дадзена цалкам процілеглая ацэнка таму, што адбылося з фірмай А.Клімава. У мяне няма ў гэтым ніякіх сумневаў, пытаньне толькі ў тым, калі гэта адбудзецца. Мяркую, што гэта будзе хутка, і Клімаў ніколі не пасьпее адседзець прызначаны яму тэрмін.***

(Міхаіл ЧЫГІР, былы прэм'ер-міністр Беларусі, кандыдат у прэзідэнты краіны на выбарах 1999 года, былы палітвязень, цяпер – падсудны).

Пасьля пераможнага падману народу Лукашэнкам і "аксамітнага" разгону парламенту можна было чакаць помсты парламентарыям. Самаўладны прэзідэнт адпомсьціў А.Клімаву не адразу. Спачатку было "ціха", нават пайшлі чуткі, што прадпрымальнік перавёў свае капіталы за мяжу, і калі яшчэ не эміграваў, то нібыта зьбіраецца гэта зрабіць. Гэта было ня так.

Тым часам будаўніцтва дому па мінскай вуліцы Лодачнай цярпела фінансавыя праблемы. Некалькі разоў зьмяняліся тэрміны здачы аб'екту пад ключ з-за недастатковага фінансаваньня будоўлі заказчыкам. Дзяржава заказала фірме А.Клімава элітны дом і раптам... зьбяднела. Не будзем гадаць, куды мінская "вертыкаль" магла падзець свае бюджэтныя грошы (пасьля лістападу 96-га, які рэферэндумна "ўзаконіў" непразрыстасьць мясцовых бюджэтаў, гэта не мае сэнсу). Але падрадчык хоча выканаць заказ і спрабуе ўлезьці ў даўгі – узяць крэдыт у банку. Зьвернем увагу, што, па словах сьведкаў і абвінавачваемых на судзе, ніводзін банк крэдытаў на будоўлю фірме А.Клімава не даў. Тады і было прынята рашэньне ўзяць крэдыт у сваім жа "Банку Андрэя Клімава" на суму 200 мільёнаў рублёў. Як заявілі на судзе сьведкі-прадстаўнікі гэтага банка, грошы будаўнічая фірма цалкам вярнула. У паказаньнях суду некалькі разоў гучала думка, што А.Клімаў, будуючы аб'ект часткова ў крэдыт і авансам, уклаў у будаўніцтва свае ўласныя грошы, фактычна — аддаў іх гораду Мінску. Тым ня менш у ліпені мінулага году, калі суд толькі пачаўся, артыкул 150 прым. – "выманьваньне крэдыту" — інкрымінаваўся самому Андрэю Яўгенавічу і былому галоўнаму бухгалтару яго прадпрыемства Леаніду Валковічу. Гэта значыць – двум падсудным з дзевяці. І вінаватымі па гэтым пункце абвінавачаньня суд абодвух не прызнаў.

Не было даведзена і яшчэ адно сьцьвярджэньне папярэдняга сьледзтва: нібыта сваю дзейнасьць прадпрыемства Клімава ажыцьцяўляла без ліцэнзіі. Высьветлілася, што на момант заключэньня дамовы на будаўніцтва дома ўласна будаўнічая фірма – "Андрэй Клімаў і К°" – ліцэнзіі сапраўды не мела. Але заказчык-дзяржструктура на гэта не зьвяртае ўвагі, таму што мае ліцэнзію на будаўніцтва "МП Андрэя Клімава". Гэта было прызнана цалкам законным, і па артыкуле 151 Крымінальнага кодэксу падсудныя Клімаў і Валковіч былі апраўданыя.

Калі два гады таму стала вядома пра арышт дэпутата Клімава, ніхто не сумняваўся, за што. Бо легітымны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, хоць і не захаваў адзінства сваіх шэрагаў, аднак – выжыў. Камісія па расьсьледаваньні парушэньняў Канстытуцыі і законаў Лукашэнкам, створаная яшчэ ў канцы 96-га, дзейнічала. На пачатку 98-га году член гэтай камісіі А.Клімаў спрабуе актывізаваць яе дзейнасьць: рассылае сьпіс выяўленых злачынстваў Лукашэнкі ў мясцовыя адміністрацыі розных рэгіёнаў Беларусі. Каб чыноўнікі мелі на ўвазе, каму падпарадкоўваюцца. Літаральна праз некалькі дзён А.Клімава арыштоўваюць. Праз год кіраўнік згаданай камісіі Віктар Ганчар і адзін з яго паплечнікаў Юрый Захаранка з перапынкам у чатыры месяцы зьнікаюць бяз вестак...

Клімава абвінавачваюць у няправільных разьліках на будаўніцтве дому не адразу. Фармальна спачатку арышт "прывязваўся" да ліцэнзіі. Але што б ні прад'яўлялі сьледчыя, сваю віну ён не прызнаваў. Як дэпутат законна абранага парламенту патрабаваў санкцыі на яго зьняволеньне Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Замест такой санкцыі "няскораны 13-ты" зрабіў заяву абурэньня і запатрабаваў выпусьціць Клімава. Падсьледны дэпутат сядзеў на Валадарцы і адмаўляўся адказваць на пытаньні сьледчых, матывуючы гэта дэпутацкай недатыкальнасьцю. Некалькі разоў Клімаў трымаў у сьледчым ізалятары галадоўкі пратэсту, некалькі разоў на працягу двух гадоў пад вартай быў зьбіты ахоўнікамі.

А дом па вуліцы Лодачнай тым часам няўхільна рос угару. І хутка "дарос" да дыпламатычнага скандалу. Пакуль Клімаў сядзеў за кратамі чацьвёрты месяц, Лукашэнка прапанаваў перасяліцца з рэзідэнцыяў у Драздах ва ўзьведзены фірмай А.Клімава дом замежным дыпламатам. Стасункі з Захадам тады ледзь не вылецелі ў каналізацыйную трубу Драздоў, якую кіраўнік дзяржавы кінуўся ладзіць. Дыпламатычныя прадстаўнікі некаторых замежных краінаў, аднак, пераехалі ў новы дом, не толькі не жадаючы сваркі з беларускай уладай: будынак сапраўды атрымаўся элітны, якіх у беларускай сталіцы не так шмат... А правесьці чаканыя ім "добраахвотныя ўзаемаразьлікі з заказчыкам" (цытата з судовых паказаньняў) галоўны кіраўнік узьвядзеньня дому так і не пасьпеў. Перашкодзіў яго арышт. Грошы А.Клімава, укладзеныя ў будаўніцтва, яму ніхто не вярнуў. Больш за тое. Дзяржаўныя органы абвінавацілі яго разам з іншымі людзьмі ў прысваеньні грошай дзяржавы на агульную суму 3 086 567 372 рублі (без уліку дэнамінацыі).

Матэрыялы гэтай крымінальнай справы, здавалася б, павінны былі разьбіраць выключна высакакласныя сьпецыялісты ў галіне будаўніцтва і праектна-каштарыснай дакументацыі. Па меншай меры – гаспадарчы суд. Настолькі шмат у ёй лічбаў, сьпецыяльнай лексікі і інкрымінуемых

(Працяг на стар.10)


Міхаіл ЧЫГІР і яго жонка Юлія прыйшлі падтрымаць А.Клімава.


Міжнародныя назіральнікі ў зале суда.

## Андрэй Клімаў:

# "Лукашэнка баіцца мяне. І я гэтаму толькі рады"

(Пачатак на стар. 8-9)

падсудным эпізодаў. Сутнасьць – з 1993 па 1999 гады Клімаў разам з іншымі асобамі нібыта каля пятнаццаці разоў афармлялі фальшывыя накладныя на атрыманьне будматэрыялаў ад розных камерцыйных структураў, але быццам бы іх не атрымлівалі. УКБ Мінгарвыканкаму, наадварот, нібыта незаконна пералічваў вялікія грошы падрадчыку па сфальсіфікаваных дакументах. Прозьвішчы цяперашніх першых асобаў Беларусі і Расіі Уладзіміра Ярмошына і Уладзіміра Пуціна, якія, будучы намесьнікамі адпаведна мінскага і піцерскага мэраў, фігуравалі ў дагаворах згодна з матэрыяламі сьледзтва, у прысудзе не агучваюцца. Затое у тэксьце прысуду згадваюцца кватэры, атрыманыя А.Клімавым ад гарвыканкаму ў 95-м годзе ў кошт пагашэньня доўгу заказчыка фірме. Згадваюцца і некалькі машынаў – намякаецца, што яны былі купленыя фірмай у 94-м годзе за нарабаваныя грошы. Але ж самі матэрыялы справы сьцьвярджаюць, што "крадзяжы грошай" на той момант нібыта доўжыліся менш за год... Цікава, колькі тады каштавалі тыя іншамаркі? Сам жа Андрэй Клімаў патлумачыў суду: аўтамабілі былі набытыя фірмай з прыбытку і да дома на Лодачнай дачыненьня не маюць.



Андрэй КЛІМАЎ: мужнасьць і вытрымка...



Тацяна КЛІМАВА: роспач і смутак...

Адзін са сьледчых па справе Клімава ў гутарцы з кіраўніком КНГ АБСЕ спадаром Вікам прызнаўся, што вельмі цяжка было знайсьці абвінавачаньне па гэтай справе. Цікавая дэталь: людзі, якія мелі тое ці іншае дачыненьне да будоўлі на Лодачнай і адразу праходзілі па справе як сьведкі, неўзабаве былі ператвораныя ў падсудных. Ім прыгразілі турмой. Тады некаторыя, што называецца, загаварылі і раскалоліся. Потым на судзе яны адмаўляліся ад таго, што паказалі сьледчым. Адна са сьведкаў прызналася, што, набіраючы на кампутары адзін з дакументаў па будаўніцтве "спрэчнага" дому, зрабіла памылку — прапусьціўшы коску. Толькі адна былая падначаленая Клімава нават на судзе сказала: "Лічу памылкай, што не зьвярнулася раней ў праваахоўныя органы".

Усім дзевяці падсудным у выніку судовых слуханьняў палова абвінавачаньняў была зьнятая. Тацяна Жураўлёва (намесьнік начальніка аддзела УКБ Мінгарвыканкаму) і Людміла Рагачова (былая дзяржслужачая, цяпер працуе ў праваслаўным прыходзе) былі апраўданы па артыкулах 166 ч.2 (злоўжываньне службовым становішчам) і 185 (укрывальніцтва злачынстваў). Былы начальнік участку будоўлі Іван Лук'янчук, былыя супрацоўнікі фірмы А.Клімава — Ганна Шахава, Канстанцін Шышоў і Аляксандр Калацілін (які зусім не займаўся будоўляй па вуліцы Лодачнай і пра завышэньне памераў цаглянай кладкі даведаўся толькі на сьледзтве) былі вызваленыя ад адказнасьці па артыкуле 171 КК — аб службовым падлогу. Яшчэ адна экс-падначаленая А.Клімава Людміла Ермаловіч, была апраўдана па арт. 91 ч.4. Астатнім падсудным менавіта гэты артыкул пакінулі, але, як прызнала судовая калегія, амаль ва ўсіх скончыліся тэрміны даўніны. Такім чынам, сем чалавек, якім пагражала падзяліць з Клімавым турэмныя нары, альбо радасьць вызваленьня ад адказнасьці судом, альбо атрымалі ўмоўныя тэрміны на адзін-два гады.

Выключэньнем стаўся толькі Леанід Валковіч, засуджаны да чатырох гадоў пазбаўленьня волі ў калоніі па тых жа артыкулах, што і ягоны быў кіраўнік: "крадзяжы ў асабліва буйных памерах па змове з групай асоб" і "службовы падлог". Дарэчы, канчатковая фармулёўка 171-га артыкулу ў дачыненьні да А.Клімава гучала ўжо не як "падлог", а як "падбухторваньне да падлогу". Такога няма ў Крымінальным кодэксе, а адказнасьць – тыя ж два гады. Па некаторых зьвестках, былы галоўны бухгалтар, 61-гадовы Л.Валковіч, зможа праз некалькі месяцаў вызваліцца з калоніі па амністыі. У такім разе становіцца зусім яскрава бачна, дзеля чаго, уласна, і была прыдумана ўся гэтая справа...

**Тацяна СЬНІТКО.**

**Каментар з лавы падсудных:**

***"Я ўсьцешаны (рус. арыгінал быў —польшчён –Т.С.) гэтым прысудам. Ён азначае, што Лукашэнка ўсур'ёз успрыняў мае словы аб тым, што старэйшы лейтэнант пажарнай службы можа яго арыштаваць. Ён баіцца мяне. І я гэтаму толькі рады".***

(Андрэй КЛІМАЎ, палітычны зьняволены, дэпутат легітымнага парламенту Рэспублікі Беларусь)

## ЗША асуджаюць прысуд, вынесены Андрэю Клімаву

**Заява прэс-сакратара Дзяржэпартаменту ЗША Джэймса РУБІНА**

ЗША асуджаюць прысуд па палітычна матываваных абвінавачаньнях, вынесены Андрэю Клімаву, дэпутату Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня і вядомаму лідэру апазіцыі да рэжыму Лукашэнкі. Тое, як рэжым абыходзіўся са спадаром Клімавым, з самага пачатку было пародыяй на правасуддзе. Ён быў арыштаваны ў лютым 1998 года і 17 месяцаў знаходзіўся ў зьняволеньні без суда. 12 сьнежня мінулага года ён быў жорстка зьбіты турэмнай аховай. Толькі пасьля ўмяшаньня Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ і пасла ЗША Сьпекхарда спадару Клімаву было дазволена атрымаць належную медыцынскую дапамогу.

Гэты прысуд, а таксама паказны працэс над былым прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром, што зараз працягваецца, забарона ўраду на правядзеньне наступных дэманстрацыяў апазіцыі сьведчаць пра далейшае адмаўленьне ўладаў ад дыялогу і нежаданьне ўсталяваць належны клімат для свабодных і справядлівых выбараў, якія ўрад плануе правесьці ўвосень. Мы зноў заклікаем беларускія ўлады ажыцьцявіць канкрэтныя крокі да сапраўднага дыялогу з дэмакратычнай апазіцыяй і прадэманстраваць большую павагу да фундаментальных правоў чалавека. Асабліва важна, каб улады захоўвалі права людзей на свабоду сходаў і гарантавалі, што правядзеньню шэсьцяў апазіцыі, запланаваных на гэтую вясну, ня будзе ствараца перашкодаў. Толькі праз такія намаганьні Беларусь можа выйсьці з існуючага канстытуцыйнага і палітычнага тупіка і перапыніць міжнародную ізаляцыю, у якой яна апынулася з-за сваіх дзеяньняў.

*Вашынгтон, 21 сакавіка 2000 году.*

# Беларускі народ змагаецца

## Рэакцыя міжнароднай супольнасьці на падзеі ў Мінску 25 сакавіка 2000 году

"...Калі глянуць на былы Савецкі Саюз, дык бачна, што Беларусь знаходзіцца ў найгоршым стане ў шмат якіх адносінах. Эканоміка ў катастрафічным стане, людзі пакутуюць. Лукашэнка спрабуе расьціснуць усе спробы дэмакратыі і апазіцыі і насамрэч змагаецца з плынню гісторыі. Ад Расіі да Украіны, недзе гэта адбываецца лепш, недзе горш, але Лукашэнка, напэўна, ужывае самыя вялікія намаганьні, каб забіць дэмакратыю і спадзяваньні людзей...

Арышты людзей, паводзіны паліцыі. Гэта тактыка паліцэйскай дзяржавы, а не тактыка дэмакратычнага грамадзтва. І калі гаварыць шчыра, галоўная праблема палягае ў тым, што Лукашэнка абыходзіць канстытуцыю, дзейнічае па-за канстытуцыйным шляхам, і ў апазіцыі няма альтэрнатывы апроч як выйсьці на вуліцы. А калі яны выходзяць на вуліцу, іх арыштоўваюць, зьбіваюць. Гэта жахлівая сітуацыя...

Гэта якраз тое, што таталітарная дыктатура заўсёды намагаецца рабіць - спрабуе запалохваць журналістаў, спрабуе запалохваць народ. І гэта пры прэзідэнце Лукашэнку адбываецца ў Беларусі зноў і зноў — і гэта павінна скончыцца. Сусьветная супольнасьць не дазволіць, каб адна краіна пайшла назад, да сталінізму, чаго, як выглядае, спадар Лукашэнка хоча дасягнуць..."

**Амерыканскі кангрэсмэн Сэм ГЭЙДЭНСАН.**

"...Я асабіста быў вельмі зьдзіўлены тым, што здарылася ў Мінску... Тыдзень перад гэтым, падчас "Маршу Свабоды-2", не было ніякіх інцыдэнтаў. А гэтым разам было столькі праблемаў. Я думаю, што гэта тыповы выпадак паліцэйскай жорсткасьці. Я атрымаў інфармацыю, што бальшыня арыштаваных вызваленыя, праўда, я ня ведаю, ці гэта так.

Вельмі непакоіць факт, што частка дэманстрантаў была затрымана па дарозе на дэманстрацыю, а пазьней была жорстка зьбітая і арыштаваная.

Мы са свайго боку будзем працягваць нашыя высілкі ў галіне абароны правоў чалавека і ў галіне спрыяньня дыялогу паміж апазіцыяй і уладамі. Мы дзейнічаем у інтарэсах не Лукашэнкі, а ў інтарэсах народу Беларусі. Гэта павольны працэс, але мы былі ў Беларусі і мы давялі да прэзідэнта Лукашэнкі нашую думку. Мы здолелі арганізаваць хаця б нейкі дыялог паміж апазіцыяй і ўрадам. Мы і надалей будзем націскаць на беларускі ўрад, каб ён згадзіўся на сапраўдны дыялог, які будзе датычыць сапраўдных пытаньняў, такіх як выбарчы закон, доступ да сродкаў масавай інфармацыі і вызваленьне палітычных зьняволеных..."

**Сябра Еўрапейскага Парламенту, сябра парламенцкай камісіі, якая нядаўна наведала Беларусь, Ёнга ВІРСМА.**

"...Палітычная сістэма, якая пануе ў Беларусі, не спрыяе разьвіцьцю адносінаў паміж нашымі краінамі.

Гэта — антыдэмакратычны рэжым. Лукашэнка не талеруе апазіцыі, і я, як прадстаўнік польскага парламенту, хачу падкрэсьліць, што мы не падтрымліваем адносінаў з тым парламентам, які Лукашэнка сам сабе выбраў і прызначыў. Польскі парламент мае адносіны толькі з беларускім Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня, з тым, які быў разагнаны Лукашэнкам.

Перад Беларусьсю стаяць вельмі складаныя праблемы. Ня толькі эканамічныя, але і палітычныя, праблемы ў галіне правоў чалавека. Вось чаму тут з кожным днём узмацняюцца пратэсты супраць рэжыму Лукашэнкі. А беларускі ўрад замест таго, каб вырашаць гэтыя складаныя праблемы, канцэнтруе свае высілкі на рэпрэсіях супраць дэманстрантаў.

Лукашэнка выразна ігнаруе ўсясьветную грамадзкую думку. Лукашэнка выступае супраць паглыбленьня нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу. Ён абмяжоўвае разьвіцьцё беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі, беларускага школьніцтва. Ён выступае за расійскамоўныя сродкі інфармацыі".

**Намесьнік старшыні камісіі замежных справаў Сойму Польшчы Лонгін ПАСТУСЯК.**

"...Мы, літоўцы, абсалютна не абыякавыя да таго, што адбываецца ў Беларусі. Беларусь - наш сусед, і да таго ж мы, літоўцы, добра ведаем беларускі народ. Гэта вельмі мірны, сяброўскі народ. Гэта ўнутрана вельмі дэмакратычны народ. І тое, што робіць у дачыненьні да свайго народу беларускі рэжым, я не магу назваць інакш як генацыд.

Але ўсё роўна, нягледзячы на рэпрэсіі, мы бачым, што беларускі народ змагаецца. Беларускі народ поўны рашучасьці быць незалежным, жыць у дэмакратычнай дзяржаве, жыць у сям'і еўрапейскіх народаў.

Для нас, літоўцаў, рэжым Лукашэнкі нелігітымны. Мы яго не прызнаем і не падтрымліваем кантактаў зь ягонымі прадстаўнікамі. Лукашэнка выразна парушыў канстытуцыю сваёй краіны і ўзурпаваў уладу.

Я мяркую, што моц рэжыму Лукашэнкі заснаваная на падтрымцы Расіі. Нават мяжа зь Літвой ахоўваецца расійскімі сіламі.

Але побач з гэтым негатыўным момантам я бачу і іншы, вельмі пазітыўны. Беларускі народ уздымаецца з каленяў. І раней ці пазьней гэты рух супраць рэжыму Лукашэнкі ператворыцца ў такую сілу, што дэмакратыя ў Беларусі пераможа..."

**Намесьнік старшыні камісіі замежных справаў літоўскага Сойму Ігнацас УЖДАВЕНІС.**

*Публікацыя падрыхтаваная паводле матэрыялаў Беларускай службы Радыё "Свабода".*

# Суды і прысуды

***Суды над затрыманымі 25 сакавіка 2000 г. у Мінску на Дзень Волі працягваліся ўвесь канец сакавіка, многія з іх перанесеныя на красавік. На большасьці судоў пабывалі адвакаты, грамадзкія абаронцы і назіральнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна". Абвінавачаным аказвалася неабходная ў такіх выпадках дапамога. Было заўважана, што ў якасьці сьведкаў з боку ўладаў часта выступаюць адныя і тыя ж людзі, якія блыталіся ў паказаньнях, бо не маглі ў адзін і той жа час знаходзіцца ў некалькіх розных месцах. ПЦ "Вясна" дзень за днём фіксуе ўсё, што адбываецца ў мінскіх судах...***

**27 сакавіка** ў судзе Савецкага раёну г.Мінску адбыліся суды над затрыманымі 25 сакавіка. У працэсах прымалі ўдзел чатыры судзьдзі: Іна Шэйко, Руслан Казадаеў, Аксана Рэлява, Людміла Савасьцьян.

У першай палове дня судзілі тых, хто зьявіўся ў суд па позвах, атрыманых 25-га сакавіка. У другой палове дня судзілі тых, хто утрымліваўся з 25 па 27-га сакавіка ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на вул. Акрэсьціна. Са сьпецпрыёмніку затрыманых прывозілі на "аўтазаках", адкуль па чарзе (па адным) чалавеку дастаўлялі да судзьдзяў у кабінеты. Такім чынам людзі па некалькі гадзінаў знаходзілся ў клетцы, у цесным, цёмным, пазбаўленым паветра кузаве "аўтазакаў", чакаючы сваёй чаргі. Усяго "аўтазакаў" было чатыры прыблізна па 20 чалавек у кожным. Асноўнае абвінавачаньне, агульнае для большасьці падсудных – парушэньне парадку правядзеньня мітынгаў, шэсьцяў і пікетаваньня (Артыкул 167.1 Адміністратыўнага Кодэксу РБ). Суды цягнуліся з 10 да 19.30 гадзінаў.

Такім чынам, 27 сакавіка былі разгледжаныя справы:

1. *Масюта Ангеліна* (суд перанесены на 28 сакавіка).
2. *Ганчароў Андрэй* (суд перанесены на 31 сакавіка).
3. *Барок Юрый* (ксёндз, суд перанесены на 28 сакавіка).
4. *Казакевіч Андрэй* (суд перанесены на 31 сакавіка).
5. *Багінская Ніна* (суд перанесены на 31 сакавіка).
6. *Яўмененка Мікола* (суд перанесены на 31 сакавіка)
7. *Плескач Алесь* (суд перанесены на 31 сакавіка).
8. *Картэль Ігар* (суд перанесены на 31 сакавіка).
9. *Гуніч Зьміцер* (суд перанесены на 4 красаваіка).
10. *Пагарцаў Алесь* (3 сутак адміністратыўнага арышту).
11. *Канапелька Сяргей* (справа перададзеная ў РАУС Партызанскага раёну, абвінавачаньне па арт.167.2 – неаднаразовае парушэньне правілаў правядзеньня масавых мітынгаў, шэсьцяў і пікетаваньняў).
12. *Шпакоўскі Адам* (суд перанесены на 31 сакавіка).
13. *Шахоўскі Аляксей* (суд перанесены на 3 красавіка).
14. *Хільчук Мікола* (папярэджаньне, пасьля таго, як адсядзеў 2 сутак).
15. *Явіч Віктар* (суд перанесены на 31 сакавіка).


Мітынг на плошчы Бангалор.

16. *Ясюк Алеся* (справа адпраўленая на дасьледаваньне).
17. *Лябедзька Анатоль* (суд перанесены на 4 красавіка).
18. *Беленькі Юрась* (справа адпраўленая на дасьледаваньне).
19. *Андрэй Ягораў* (апраўданы).
20. *Жывіца Уладзімір* (суд перанесены на 31 сакавіка).
21. *Кардаш Яўген* (суд перанесены на 28 сакавіка).
22. *Пціцын Сяргей* (суд перанесены на 28 сакавіка).
23. *Патапёнак Пётр* (суд перанесены на 29 сакавіка).
24. *Феактыстаў Уладзімір* (суд перанесены на 29 сакавіка).
25. *Кавалеўскі Уладзімір* (суд перанесены на 29 сакавіка).
26. *Гітліц Рыгор* (суд перанесены на 29 сакавіка).
27. *Вяргейчык Сяргей* (суд перанесены на 29 сакавіка).
28. *Небышынец Андрэй* суд (перанесены на 30 сакавіка).
29. *Саўчыц С.* (суд перанесены на 30 сакавіка).
30. *Селезень Сяргей* (суд перанесены на 30 сакавіка).
31. *Голуб Сяргей* (суд перанесены на 31 сакавіка).
32. *Івашкевіч Віктар* (суд перанесены на 30 сакавіка).
33. *Свіб Фелікс* (суд перанесены на 30 сакавіка).
34. *Брэзін Аляксандр* (Брэсцкая вобласьць, апраўданы).
35. *Ільюкевіч Уладзімір* (суд перанесены на 4 красавіка).
36. *Гоман Александр* (суд перанесены на 28 сакавіка).
37. *Шарай Міхаіл* (суд перанесены на 29 сакавіка).
38. *Шэчко Сяргей* (суд перанесены на 3 красавіка).
39. *Кляшторная Мая* (папярэджаньне).
40. *П'яных Сяргей* (суд перанесены на 30 сакавіка).
41. *Мікалаеў Алесь* (папярэджаньне).
42. *Зосімаў Аляксандр* (суд перанесены на 30 сакавіка).
43. *Голуб Валеры* (папярэджаньне).
44. *Гладухаў Міхаіл* (5 сутак адміністратыўнага арышту).
45. *Кухаронак Аляксей* (суд перанесены на 30 сакавіка).
46. *Мядзьведзеў Аляксандр* (суд перанесены на 29 сакавіка).
47. *Рабкавец Анатоль* (суд перанесены на 4 красавіка).
48. *Лемеш Яўген* (суд перанесены на 4 красавіка).
49. *Бондараў Алесь* (3 сутак адміністратыўнага арышту).
50. *Капуцкі Алесь* (суд перанесены на 5 красавіка).
51. *Чахольскі Алесь* (суд перанесены на 5 красавіка).
52. *Валуй Леанід* (суд перанесены на 28 сакавіка).


Мінск, 25 сакавіка 2000 году.


Ідзе "зачыстка"...

53. *Новік Міхась* (суд перанесены на 6 красавіка).
54. *Вяроўкін Уладзіслаў* (суд перанесены на 30 сакавіка.)
55. *Краўцоў* (папярэджаньне).
56. *Чарнавус Мікола* (суд перанесены на 31 сакавіка).
57. *Шыманскі Ігар* (суд перанесены).
58. *Алежка Аляксандр* (суд перанесены на 4 красавіка, апраўданы).
59. *Рыбкавец Анатоль* (суд перанесены на 4 красавіка).
60. *Бурдыка Уладзімір* (суд перанесены на 29 красавіка, потым перанесены на 3 красавіка).
61. *Сіўчык Вячаслаў* (суд перанесены на 29 сакавіка).
62. *Статкевіч Мікола* (суд перанесены на 29 сакавіка).

**28 сакавіка** працэсы адбываліся ў судзе Савецкага раёну г.Мінску. Адміністратыўныя матэрыялы разглядаліся судзьдзёй Русланам Казадаевым. У якасьці сьведкаў у судовых працэсах выступалі супрацоўнікі міліцыі і ваеннаслужачыя ўнутраных войскаў, якія давалі непраўдзівыя сьведчаньні. Пры азнаямленьні з матэрыяламі справаў, якія паступілі ў суд, быў выяўлены шэраг парушэньняў: пратаколы аб адміністратыўных правапарушэньнях пісаліся на адзін стандартны ўзор, рапарты складаліся ня тымі супрацоўнікамі міліцыі, якія ажыцьцяўлялі затрыманьні, а на судзе сьведчылі іншыя. Так, судзьдзя Р.Казадаеў пры разглядзе справы Юрыя Барка (каталіцкага сьвятара са Шклоўскага раёну Магілёўскай вобласьці) быў вымушаны вынесьці прадстаўленьне ў ГУУС Мінгарвыканкаму аб прыцягненьні да адказнасьці супрацоўнікаў міліцыі Раманоўскага і Валадзько за дачу ілжывых сьведчаньняў падчас разгляду справы.

28 сакавіка судом Савецкага раёну г.Мінску былі разглежаныя наступныя справы:

1. *Масюта Ангеліна* (папярэджаньне).
2. *Барок Юры* (папярэджаньне).
3. *Яўмененка Мікола* (суд перанесены на 29 сакавіка).
4. *Кардаш Яўген* (суд перанесены на 3 красавіка).
5. *Пціцын Сяргей* (штраф 50 млн. беларускіх рублёў).
6. *Гоман Аляксандр* (папярэджаньне).
7. *Валуй Леанід* (справа спыненая).
8. *Чарнавус Мікола* (суд перанесены на 31 сакавіка).

**29 сакавіка** суды над затрыманымі адбыліся ў судзе Савецкага раёну г. Мінску. Былі разгледжаныя справы:

1. *Патапёнак Пётр* — суд перанесены на 3.04.2000 г. (не зьявіўся сьведка-міліцыянт).
2. *Феактыстаў Уладзімір* — штраф 20 мінімальных зарплатаў.
3. *Кавалеўскі Уладзімір* — вытворчасьць спыненая за адсутнасьцю складу правапарушэньня.
4. *Гітліц Рыгор* — вытворчасьць спыненая з-за адсутнасьці складу правапарушэньня.
5. *Шарай Міхаіл* — суд перанесены на 30 сакавіка.
6. *Статкевіч Мікола* — штраф 20 мінімальных зарплатаў.
7. Прыкладна ў чатыры гадзіны дня ў суд быў дастаўлены *Вячаслаў Сіўчык*, які быў затрыманы 28 сакавіка і ўтрымліваўся ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку ГУУС Мінгарвыканкаму. Зранку яго даставілі ў РАУС Савецкага раёну г. Мінску, дзе пратрымалі да 16.00. У судзе В. Сіўчык заявіў хадайніцтва аб удзеле ў справе адваката, і суд быў перанесены на 30 сакавіка.
8. Судзьдзя Аксана Рэлява разгледзела справу *Сяргея Вяргейчыка* і вынесла яму папярэджаньне.
9. Судзьдзя Руслан Казадаеў адклаў справу *Уладзіміра Бурдыкі* на 3 сакавіка.
10. Судзьдзя Людміла Савасьцьян разгледзела справу *Аляксандра Мядзьведзева* і вынесла яму папярэджаньне.

**На 30 сакавіка** быў прызначаны разгляд адміністратыўнай справы намесьніка старшыні БНФ "Адраджэньне", віцэ-прэзідэнта Кангрэсу свабодных прафсаюзаў Беларусі *Віктара Івашкевіча*. Судовы працэс не адбыўся з-за хваробы абвінавачваемага, пра што былі прадстаўленыя адпаведныя дакументы. Разгляд справы В. Івашкевіча перанесены на 4 красавіка гэтага году.

30 сакавіка судзьдзямі суда Савецкага раёну г. Мінску Інай Шэйко, Аксанай Рэлява, Людмілай Савасьцьян было разгледжана дзевяць адміністратыўных спраў над затрыманымі 25 сакавіка і былі вынесеныя наступныя рашэньні:

1. *П'яных Сяргей* – апраўданы.
2. *Небышынец Андрэй* – штраф 44 тысячы рублёў (каля 50 даляраў ЗША).
3. *Селезень Сяргей* – папярэджаньне.
4. *Саўчыц С.* – папярэджаньне.
5. *Зосімаў Аляксандр* – папярэджаньне.
6. *Свіб Фелікс* – суд перанесены на 4 красавіка;
7. *Кухаронак Аляксей* – суд перанесены на 4 красавіка.
8. *Шыманскі Ігар* – суд перанесены на 4 красавіка.
9. Першы працэс над *Вяроўкіным Уладзіславам* быў 27 сакавіка. Тады сьведка з боку міліцыі адмовіўся даваць паказаньні, і судзьдзя Людміла Савасьцьян перанесла працэс. 30 сакавіка падчас працягу суда высьветлілася, што другі сведка капітан унутраных войскаў Федзякін Андрэй Уладзіміравіч не апаз-наў Вяроўкіна. Пры гэтым Вяроўкін сьведчыў, што яго затрымлівалі каля Камароўскага рынку, а капітан тлумачыў, што кагосьці падобнага затрымлівалі ці каля філармоніі, ці каля ЦУМу, а потым заявіў, што ўвогуле нікога не затрымліваў, а толькі па рацыі даваў каманды аб затрыманьні.

Падчас суда Вяроўкін расказаў, як яго затрымлівалі. Каля рынку Вяроўкін убачыў, што міліцыянты нацкавалі сабаку на дзяўчыну. Сабака кінуўся на яе, сарваў заплечнік і пачаў шкуматаць. Тады Вяроўкін паспрабаваў зьвярнуцца да афіцэра, каб абараніць дзяўчыну. І за гэта салдаты накінуліся на яго і арыштавалі. Дзяўчыну пасадзілі ў машыну побач з Вяроўкіным, а сабака яшчэ доўга ірваў заплечнік, бо міліцыянты не маглі адцягнуць яго. Гэты факт пацьвердзіўся. Дзяўчыну завуць Марына Азаронак.

Капітан заявіў судзьдзі, што пісаў рапарт аб затрыманьні Вяроўкіна, на што судзьдзя запярэчыла аб адсутнасьці рапарту. У сувязі з супярэчлівымі паказаньнямі судзьдзя перанесла судовы працэс на 4 красавіка.

**31 сакавіка** ў судзе Савецкага раёну г.Мінску працягваліся судовыя працэсы над затрыманымі 25 сакавіка ў Дзень Волі.

Судзьдзі Р.Казадаеў, І.Шэйко, А.Рэлява і Л.Савасьцьян вынеслі наступныя прысуды:

1. *Груздзіловіч Алег* (журналіст) – справа спыненая.
2. *Ганчароў Андрэй* – справа спыненая.
3. *Плескач Аляксандр* – матэрыялы адпраўленыя на дапрацоўку.
4. *Казакевіч Андрэй* – папярэджаньне
5. *Явіч Віктар* – папярэджаньне.
6. *Жывіца Уладзіслаў* – справа перанесеная на 4 красавіка.
7. *Шпакоўскі Адам* – штраф 20 мінімальных заробкаў (каля 50 даляраў ЗША).
8. *Голуб Сяргей* – матэрыялы адпраўленыя на дапрацоўку.
9. *Багінская Ніна* – матэрыялы адпраўленыя на дапрацоўку.

Судовыя разгляды будуць працягвацца 3, 4 і 5 красавіка. Пра выніккі судовых паседжаньняў будзе паведамлена дадаткова.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*15 сакавіка* прэзідэнт міжнароднай асацыяцыі беларускіх яўрэяў Якаў Гутман вярнуўся з сімпозіуму, прысьвечанага ахвярам Халакосту, які адбываўся ў Аўстрыі. У Мінску Якава Гутмана сустрэла зорка Давіда, якую антысеміты намалявалі фарбай на дзьвярах ягонай кватэры. Гэта яшчэ адно сьведчаньне таго, што антысеміты беспакарана актывізуюць сваю дзейнасьць у Мінску. Сваю чарговую акцыю антысеміты накіравалі супраць Якава Гутмана, які бароніць гонар і годнасьць яўрэйскага народу ад шматлікіх праяваў антысемітызму і распальваньня міжнацыянальнай варожасьці, у тым ліку пратэстуе супраць цалкам антысеміцкае кнігі "Война по законам подлости", якая была выдадзеная АО "Православная инициатива" і вольна прадавалася ў кнігарнях Мінску.

*16 сакавіка* ў г.Баранавічы (Брэсцкая вобласьць) за расклейваньне аб'яваўпаведамленьняў пра санкцыянаваны гарадзкімі ўладамі пікет былі арыштаваныя і дастаўленыя ў міліцэйскі пастарунак Галіна Багдановіч і Марына Філімоненка.

*17 сакавіка* ў судзе Ленінскага раёну г. Мінску быў вынесены прысуд палітвязьню, дэпутату Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Андрэю Клімаву. Суд прызнаў А.Клімава вінаватым па двух з чатырох прад'яўленых яму пунктаў абвінавачаньня і асудзіў яго да 6 гадоў пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці.

*17 сакавіка* адбылося чарговае судовае паседжаньне па справе былога прэм'ер-міністра Беларусі, палітвязьня Міхаіла Чыгіра. Паседжаньне яшчэ раз пацьвердзіла, што абвінавачаньні супраць М.Чыгіра развальваюцца проста на вачах. На гэтым паседжаньні былі зачытаныя вынікі экспертызы подпісу пад дакументамі канадзкай фірмы "Каруна". Экспертыза паказала, што подпісы на іх не М.Чыгіра, а падробныя.

*18 сакавіка* адбыўся кангрэс адной са старэйшых праваабарончых арганізацыяў Беларусі — Грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская рэспубліканская ліга правоў чалавека" (БРЛПЧ). На кангрэсе адзінагалосным рашэньнем Яўген Новікаў быў вызвалены ад займаемай пасады старшыні БРЛПЧ і выключаны з шэрагаў арганізацыі за "невыкананьне працягу году статутных мэтаў і задачаў БРЛПЧ, наўмыснае блакаваньне дзейнасьці выканкаму БРЛПЧ, перавышэньне паўнамоцтваў старшыні БРЛПЧ, распаўсюджваньне праз сродкі масавай інфармацыі недакладных зьвестак пра дзейнасьць БРЛПЧ, дыскрэдытацыю дзейнасьці БРЛПЧ і нанясеньне маральнай шкоды яе заснавальнікам і сябрам". Удакладнім, што адною з асноўных прычынаў адстаўкі сталі некалькі выступленьняў Я.Новікава па тэлебачаньні, у якіх ён запэўніваў, што ў Беларусі з правамі чалавека ўсё цудоўна і калі і парушаюцца яны, дык выключна апазіцыяй... Новым старшынём БРЛПЧ абраны Валеры Дунаеў.

*19 сакавіка* сябры "Маладой Грамады" і "Маладога Фронту" правялі ў Барысаве (Мінская вобласьць) санкцыянаваны пікет пад лозунгам: "Беларуская моладзь за альтэрнатыўную службу і прафесійнае войска". Гарвыканкам выдзеліў дзеля правядзеньня пікету найгоршае з мажлівых месцаў: пляцоўку на гарадзкім стадыёне паміж плотам і трыбунай. "Гледачамі" акцыі ад пачатку былі блізу пяцідзесяці міліцыянтаў. Каля пікетоўшчыкаў пад бел-чырвона-белым сьцягам і транспарантам "Моладзь за альтэрнатыўную службу" сабралася ўсё ж нямала людзей, якія атрымалі ўлёткі і газеты. Пасьля пікету быў затрыманы актывіст "Маладога Фронту" Павал Лыскавец. Капітан міліцыі Алег Кірын пагражаў яму штрафам ды іншымі непрыемнасьцямі, але адпусьціў, пратрымаўшы ў пастарунку тры гадзіны.

*20 сакавіка* дзеці беларускіх палітвязьняў выправіліся на дзесяцідзённы адпачынак у Швецыю. У складзе дэлегацыі дзеці Уладзіміра Кудзінава, Андрэя Клімава, унукі Валерыя Шчукіна і іншых палітвязьняў — усяго дзесяць дзяцей.

*20 сакавіка* жыхар г. Ліда (Гродзенская вобласьць) Валеры Гебень быў выкліканы ў гарадзкі суд, дзе яму інкрымінавалі арт. 166.1 (непавага да суда). Сутнасьць справы такая. 7 лістапада 1999 году В.Гебень быў арыштаваны нарадам міліцыі на прыпынку гарадзкога транспарту. Пры сабе ў яго знайшлі дзьве ўлёткі з выяваю невядомага чалавека. Міліцыянты сьцьвярджалі, што гэта А.Лукашэнка і склалі пратакол. 20 лістапада адбыўся суд, на якім В.Гебень абвінавачваўся па арт. 167.2. Судзьдзя адразу рашэньне ня вынес, а сказаў, што паведамленьне аб ім прыйдзе да В. Гебеня па пошце праз тры дні. Аднак рашэньне не прыйшло. 18 лютага 2000 году на кватэру да В. Гебеня прыйшоў чалавек, які не назваўся, не паказаў свае дакументы, а адразу пачаў апісваць маёмасьць. В.Гебень толькі тады даведаўся, што на яго накладзены штраф у 14 тысячаў 500 рублёў. 19 лютага В.Гебень зьвярнуўся ў сакратарыят суда, але рашэньне суда пра штраф яму не далі. Затое судовы выканаўца напісаў заяву ў суд, у якой абвінаваціў В. Гебеня ў тым, што ён сілаю выставіў яго з кватэры. І вось — новае разьбіральніцтва.

*21 сакавіка* ў г. Баранавічы за расклейваньне ўлётак з запрашэньнем на дазволены гарвыканкамам мітынг з нагоды Дня Волі былі арыштаваныя Мікалай Агароднік і Раман Гундар. Нягледзячы на тое, што з сабою яны мелі копію дазволу гарвыканкаму, трое міліцыянтаў груба абышліся з хлопцамі, зьбілі іх, а адзін міліцыянт наклеіў аб'яву на грудзі М. Агародніку. Арыштаваных адвезьлі ў пастарунак, дзе пратрымалі іх паўтары гадзіны, не дазволіўшы патэлефанаваць бацькам, а потым адпусьцілі. З дапамогай мясцовых актывістаў ПЦ "Вясна" ад імя хлопцаў была складзеная заява ў пракуратуру на неправамерныя дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі.

*21 сакавіка* ў шапіках "Саюздруку" зьявіўся першы нумар незалежнага часопіса "Кур'ер", выпуск якога быў забаронены ўладамі ўвосень 1999 году, разам з яшчэ дзевяцьцю выданьнямі. Адным з першых "блакаду" ўдалося прарваць менавіта "Кур'еру": Рэдагуе часопіс былы галоўны рэдактар газеты "Свабода" Ігар Гермянчук. Часопіс — першае ў Беларусі грамадзкапалітычнае выданьне кшталту амерыканскага часопіса "Time" альбо расійскага "Огонек". Наклад першага нумару 5 тысяч асобнікаў. Выходзіць ён пакуль будзе раз на месяц з перспектывай у бліжэйшым часе стаць тыднёвікам.

*23 сакавіка* ў Мінску ў раёне Камароўскага рынку ў 21 гадзіну за расклейку ўлётак-запрашэньняў на акцыю 25 сакавіка – Дзень Волі былі затрыманыя пяцёра актывістаў "Маладога Фронту" — Сяргей Жаўлакоў (непаўнагадовы), Сяргей Касьцюкевіч, Мікола Сёмуха (непаўнагадовы), Кастусь Дасько, Раман Пронаў. Усе затрыманыя былі дастаўленыя ў Савецкі РАУС г.Мінску, дзе іх пратрымалі да дзьвюх гадзінаў ночы. Па словах аднаго з затрыманых, С.Жаўлакова, іх пратрымалі, нягледзячы на тое, што ён непаўнагадовы, да гадзіны ночы, і маці патэлефанавалі толькі ў палове на першую, што зьяўляецца парушэньнем нормаў КаАП РБ. С.Жаўлакоў таксама распавёў, што супрацоўнікі міліцыі абражалі яго і ягоных сяброў нецэнзурнай лаянкай і пагражалі фізічнай расправай. На кожнага з затрыманых былі складзеныя пратаколы паводле арт. 143 ч.3 КаАП – "парушэньне правілаў добраўпарадкаваньня і ўтрыманьня населеных пунктаў", за гэтак званую антысанітарыю – расклейку аб'яваў у неадведзеных для гэтага месцах (штраф да 1 мінімальнага заробку).

*23 сакавіка* гарадзкі суд г.Рэчыца (Гомельская вобласьць) асудзіў Валянціна Гулая да 1,5 гадоў пазбаўленьня волі ўмоўна з абавязковым прыцягненьнем да працы за... адмаўленьне ад праходжаньня тэрміновай вайсковай службы. Хлопец адмаўляўся ісьці служыць у войска паводле свайго веравызнаньня — ён уваходзіць у рэлігійную грамаду Сьведкаў Іегавых. Просьбы В.Гулая даць яму мажлівасьць прайсьці альтэрнатыўную службу засталіся безвыніковымі. 23 лютага ён быў арыштаваны і дастаўлены ў суд у кайданках, пад канвоем. 22 сакавіка пачаўся суд, а 23 — судзьдзя Сьвятлана Шурпо аб'явіла пра рашэньне.

*25 сакавіка* ў Беларусі прайшло сьвяткаваньне 82-й гадавіны з дня ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Шэсьці, мітынгі, пікеты адбыліся ў большасьці буйнейшых гарадоў краіны. У Мінску падчас акцыі апазіцыі затрымана больш за 500 чалавек, у тым ліку шмат журналістаў, праваабаронцаў, замежных грамадзянаў. Шэсьце і мітынг з

удзелам больш чым 2 тысячаў грамадзянаў прайшло ў Гродне. Шэсьці і мітынгі адбыліся таксама ў Магілёве, Віцебску, Брэсьце, Лідзе, Бабруйску, Баранавічах, Наваполацку, Сьвіслачы, Смаргоні і іншых гарадах. Пасьля мітынгаў у Бабруйску затрымана восем чалавек, у Віцебску — шэсьць, у Баранавічах — адзін.

*28 сакавіка* старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі Беларусі Мікалай Статкевіч атрымаў позву ў суд Савецкага раёну для правядзеньня над ім судовага працэсу як над заяўнікам шэсьця і мітынгу прысьвечанага Дню Волі ў гонар утварэньня БНР 25 сакавіка. Судзьдзя разгледзела справу і накірвала яе на дапрацоўку, а Статкевіча адпусьціла да чарговага судовага працэсу. Як толькі Статкевіч выйшаў з суда, на яго накінуліся міліцыянты і пацягнулі ў машыну. Арышт Статкевіча здымала група НТВ і паказала па сваім тэлеканале. У другой палове дня адбыўся разгляд адміністратыўных матэрыялаў па справе М.Статкевіча. Лідэр сацыял-дэмакратаў быў прызнаны вінаватым у парушэньні арт.167.1 КаАП РБ і аштрафаваны на 20 мінімальных заробкаў (каля 50 даляраў ЗША).

*28 сакавіка* ў 15.30 каля штаб-кватэры БНФ затрыманы намесьнік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык. В.Сіўчык выйшаў з сядзібы БНФ разам з кіраўніком Магілёўскага праваабарончага цэнтру Сяргеем Абадоўскім. Да іх пад'ехала машына, з якой выскачылі людзі ў цывільным, якія паказалі пасьведчаньні, прадставіліся супрацоўнікамі крымінальнага вышуку і загадалі В.Сіўчыку ехаць з імі ў РАУС Савецкага раёну. С.Абадоўскі запатрабаваў, каб яны назвалі свае прозьвішчы. Людзі ў цывільным назвалі: Кулінковіч Ігар Фёдаравіч і Сталіня Уладзімір Сяргеевіч. С.Абадоўскі спытаў: “Хіба крымінальнаму вышуку больш няма чым займацца?” На гэта яму адказалі: “Мы выконваем загад. Наша справа даставіць В. Сіўчыка ў Савецкі РАУС”.

29 сакавіка ў Беларусі афіцыйна пачаўся "дыялог" грамадзка-палітычных сілаў і ўладаў. Удзел у ім прымае 90 розных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў. Зрэшты, уласна партыяў у тым пераліку мала, а ў асноўным грамадзкія аб'яднаньні ветэранаў, жанчынаў, казакаў, блакаднікаў Ленінграду, ваенных маракоў... Бо прадстаўнікі буйнейшых апазіцыйных партыяў прымаць удзел у гэтак званым "дыялогу", а дакладней — палітычным фарсе, адмовіліся. Улады прадстаўляе віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч.

*У сакавіку* віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька зьвярнуўся да А. Лукашэнкі з прапановаю пацьвердзіць альбо абвергнуць інфармацыю пра тое, што ў Беларусі ёсьць дамова з Расіяй пра вяртаньне і разьмяшчэньне на нашай антэрыторыі расійскай ядзернай зброі. Сам А. Лябедзька ў інтэрв'ю газеце "Новые Известия" заявіў, што верагоднасьць існаваньня такой дамовы вельмі вялікая, бо Беларусь захавала ў сябе ўсю інфраструктуру дзеля разьмяшчэньня ядзернай зброі, прынамсі шахты для ядзерных ракетаў не разбураліся... Дарэчы, летась А.Лябедзька за ўдзел у антыядзернай акцыі адсядзеў трое сутак у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку і быў аштрафаваны на 75 мільёнаў рублёў.

**Інфармацыйны аддзел «Вясны»**




# Праўда супраць маны

"Малады Фронт" 17 сакавіка правёў крыху незвычайную акцыю, прысьвечаную падзеям у Чачні. Называлася яна грамадзкім працэсам "Барацьба за незалежнасьць і генацыд. Праўда супраць маны". Спачатку адбыўся пікет каля расійскай амбасады з антываеннымі плакатамі ды лозунгамі ў абарону незалежнасьці Чачні, а потым судовы працэс, на якім былі і судзьдзі, і сьведкі, і абаронцы. Маладафронтаўцы гэткім чынам спрабавалі разабрацца, што ж адбываецца ў Чачні: барацьба з сепартыстамі ды тэрарыстамі, альбо нацыянальна-вызваленчая вайна?

Дыскусія атрымалася цікавай, пазнаваўчай, хоць і крыху аднабаковай: "адвакатаў" Расіі відавочна не хапала. Былі і спробы перакінуць масток з падзеяў у Чачні на Беларусь. Адзін з "судзьдзяў", ветэран Вялікай Айчыннай вайны, паэт Артур Вольскі, сказаў: "Асабіста для мяне Дудаеў, Басаеў і Масхадаў — героі свайго народу. Такія ж, як і нашыя партызаны часоў Вялікай Айчыннай вайны. Апошнія таксама рабавалі, забівалі, зьнішчалі... Вайна ў Чачні — папярэджаньне нам."

**Наш кар.**



Суд ідзе...

## Валеры ШЧУКІН

# Турэмныя універсітэты

Ад "ненавязьлівага" сервісу з боку капітана міліцыі я рашуча адмовіўся. У міліцэйскі пастарунак, адкуль мяне павінны былі этапаваць у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на Акрэсьціна, я прыбыў сам. Нагадаю, што тры ранейшыя спробы міліцыянтаў Савецкага РАУС кінуць мяне за краты *гвалтам* былі няўдалымі. Аднак мая самастойнасьць была "на кароткім павадку". Мяркую, і ёсьць дзеля гэтага падставы, што кожны мой крок адсочваўся, і любое адхіленьне ад маршруту — крок налева-направа — быў бы прыняты за спробу ўцёкаў з усімі наступнымі вынікамі...

А наогул жа грамадзяне, якія атрымалі адміністратыўны арышт, павінны прыбываць да месца яго выкананьня (да прыёмнікаў-разьмеркавальнікаў) самастойна, маючы пры сабе пастанову аб арышце, пашпарт, сухі паёк на суткі, *асабістыя прыналежнасьці*. Словам, маючы ўсё, што не забаронена законам. Падкрэсьліваю: Законам Рэспублікі Беларусь, а не нейкай інструкцыяй часоў Мікалая Крывавага ці Івана Жахлівага. І гэта не прымітыўны гумар. Ёсьць нямала прыкладаў, калі за сьценамі прыёмніка-разьмеркавальніка карыстаюцца (кіруюцца) інструкцыямі не тое што савецкіх часоў, а прынятымі яшчэ ў гады сталіншчыны.

Дзяржава ва ўсе часы брала на сябе абавязак абараняць гонар і годнасьць сваіх грамадзянаў. Так, напэўна, і ёсьць ва ўсім сьвеце. Але толькі не ў Беларусі, хоць права на гэта гарантуе артыкул 2 Канстытуцыі РБ. Нагадаю, што ў маім выпадку міліцыянты мелі справу не проста з грамадзянінам, а з *афіцэрам*. А ў *працэдуру* выкананьня арышту, асабліва калі гэта датычыць афіцэраў, міліцыянты павінны ўмешвацца толькі пры ўхіленьні ад яўкі пад арышт, адсутнасьці пашпарту ці іншых абставінах, якія перашкаджаюць рэалізацыі пакараньня. Аднак дзясяткі тысячаў супрацоўнікаў міліцыі трэба ж нечым заняць. Вось яны і занятыя... перамяшчэньнем сотняў тысячаў арыштантаў па трохкутным замкнутым маршруце: РАУС — сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік — суд.

### "Чаўнакі" ў міліцэйскай форме.

Да сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку міліцэйскія машыны падкочваюць як на дыпламатычны прыём — адна за другой. З тою толькі розьніцай, што сьвецкія прыёмы наладжваюцца ад выпадку да выпадку і госьці едуць за свой кошт, а арыштаваных дастаўляюць штодзённа і за грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Прычым добрую палову акрэсьцінскіх "гасьцей-наведвальнікаў" за адну "адсідку" перамяшчаюць з аднаго канца гораду ў другі шмат разоў. Маршруты звычайна такія:

— ад месца праварушэньня ў райаддзел;

— з райаддзелу ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на двое-трое сутак;

— са сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку ў РАУС па канфіскаваныя дакументы, рэчы і матэрыялы адміністратыўнае справы;

— з райаддзелу ў суд;

— з суда ў райаддзел;

— з райаддзелу ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік дзеля адбыцьця пакараньня.



Гэта самы кароткі шлях. Часьцей ён бывае даўжэйшым. То няправільна афармяць дакументы на прывезенага арыштанта, то высьвятляецца, што даставаленаму ў прыёмнік-разьмеркавальнік "кліенту" неабходная медыцынская дапамога і яго даводзіцца везьці ў бальніцу, то патрапіцца "занадта разумны" і дасьведчаны ў сваіх правах арыштант, то яшчэ нешта... І ў выніку на аднаго зьмешчанага пад арышт даводзіцца ад чатырох да дзесяці сьпецрэйсаў службовых аўтамабіляў з *суправаджаючымі міліцыянтамі*. У краіне паліва не хапае, каб засеяць палі і ўбраць ураджай, а міліцэйскія машыны накручваюць кіламетры па горадзе з арыштантамі.

Вось і мяне 13 студзеня з Савецкага РАУС у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік дастаўлялі на аўтамашыне. Праўда, не аднаго. У маленькую камеру ў міліцэйскім УАЗіку заштурхалі трох арыштаваных. Адзін з маіх спадарожнікаў пашкадаваў мае сівыя валасы і саступіў сваё месца, *а сам* сагнуўся ў тры пагібелі. У такім становішчы яму давялося прабыць каля паўгадзіны. Нам яшчэ пашанцавала, бо ў гэткай перасоўнай камеры, даўжыня якой паўметра, а шырыня паўтара метра, часам перавозяць па шэсьць і больш чалавек. Я сам бачыў аднойчы, як каля варотаў прыёмніку-разьмеркавальніку з такога вось "мініаўтазаку" вылезла ажно дзесяць(!) чалавек. Жывёлу і тую перавозяць у больш "чалавечных" умовах.

### Закон не выконвае... Мінгарвыканкам.

Беларускія ўлады маюць правы, але не маюць абавязкаў. А калі і маюць, дык не выконваюць іх. Да прыкладу пратакол за парушэньне правілаў правядзеньня сходаў, мітынгаў, шэсьцяў, дэманстрацыяў, пікетаў *павінен* складаць той, хто дае (альбо не дае) дазвол на правядзеньне мерапрыемстваў. У дадзеным выпадку — Мінгарвыканкам (артыкул 234.1 КаАП РБ). Аднак намесьнік старшыні сталічнага гарвыканкаму Віктар Чыкін свае непасрэдныя абавязкі "перадаў" міліцыянтам, якія і складаюць пратаколы, ня ведаючы нават, хто і што "парушыў". У выніку ні ў адным з сотняў пратаколаў, складзеных за нібыта парушэньне артыкула 167.1 КаАП РБ, які стаў у Беларусі "палітычным", не ўказаная сутнасьць праварушэньня.

Аднак калі пратакол, хай і некампетэнтнымі асобамі, *але* ўсё ж складаецца, дык галоўны свой абавязак — працоўнае выхаваньне асобаў, якія атрымалі адміністратыўны арышт (артыкул 306 КаАП РБ) — Мінгарвыканкам проста не выконвае. Палітарыштанты (асобы, асуджаныя па арт. 167.1 КаАП РБ) павінны выкарыстоўвацца на фізічнай працы. Парушаючы закон, палітарыштаваных накіроўваюць у камеры карцарнага тыпу, не даюць нават пасьцельныя прыналежнасьці, кормяць праз суткі, трымаюць у паўзмроку, без магчымасьцяў рухацца, не выводзяць нават на прагулку, хоць абавязаныя рабіць гэта адзін раз у суткі.

Атрымліваецца, што ў дадзеным выпадку для Мінгарвыканкаму мэта арышту не *папярэджаньне* праварушэньняў і не пакараньне за іх, не выхаваньне грамадзянаў у рэчышчы дакладнага захаваньня законаў і Канстытуцыі РБ, а расправа над тымі, хто думае інакш і прамое парушэньне правоў чалавека.

Такая вось атрымліваецца ў нас дэмакратыя. Дэмакратыя па-беларуску.

*(Заканчэньне. Пачатак у №№ 1-4)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.**
**Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49.**
**E-mail:viasna@crosswinds.net**
**viasna@spring96.org**
**www.spring96.org**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*